# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

6 снежня 2019 года №49 (1284)

18+





# Вілейскі батутыст Іван Літвіновіч заваяваў пуцёўку на Алімпіяду-2020



старонка 22

Фота wikipedia.org.







## Новы расклад руху цягнікоў ад 8 снежня

старонка 5

## Пражыла ў Маладзечне 73 гады і засталася француженкай

старонкі 18-19

## У Вілейцы адкрылі пляцоўку для электрааходаў

старонка 3


ISSN 1991–7155





Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Абіраем Асобу года-2019

## Галасаванне за пераможцу намінацыі «Прыз глядацкіх сімпатый» акцыі «Асоба года-2019» адкрытае

**«Рэгіянальная газета» вызначае тых, хто найбольш адзначыўся ў розных галінах цягам года.**

Мы абралі найбольш яркія падзеі і герояў, якія стваралі 2019 год такім, якім ён нам запомніцца. І прапануем вам, дарагія чытачы, выказаць свае сімпатыі.

**Галасаванне за прэтэндэнтаў мы запусцім 9 снежня. Па выніках галасавання вызначыцца толькі адна намінацыя – «Прыз глядацкіх сімпатый». Каб прагаласаваць, неабходна выбраць імёны ў спецыяльнай форме на нашым сайце rh.by.**

Пераможцаў усіх астатніх намінацый вызначыць калектыў рэдакцыі. У тым ліку менавіта рэдакцыя вызначыць, каму пойдзе галоўнае званне Асобы года-2019.

Галасаванне будзе закрытае 2 студзеня. У першым нумары газеты за 2020 год вы даведаецеся імя пераможцаў.

Вы можаце даслаць прапанову сваёй кандыдатуры, якая будзе ўдзельнічаць у конкурсе. Дасылайце прапановы на адрас regionnews@rh.by.

### Спіс прэтэндэнтаў на ўзнагароду «Асоба года-2019»

#### Маладзечна

**Алена Парахня і Лідзія Князева** – за прасоўванне актыўнай сталасці.

**Эдвард Баланчук** – за адстойванне правоў.

**Ірына Тархан** – за прасоўванне актывізму і згуртаванне супольнасці.

**Зоя Дылеўская** – за прасоўванне экалагічнасці сярод школьнікаў.

**Уладзімір Садоўскі** – за захаванне спадчыны.

**Андрэй Эзерын** – за ўвагу да мужчынскага здароўя.

**Атрад «Анёл Паўночны Захад»** – за мужнасць ратаваць іншых.

**Дзмітры Асанаў** – за золата Еўрапейскіх гульняў.

**Этнаграфічны клуб «Кола»** – за захаванне спадчыны.

**Каманда актывістаў** – за стварэнне «Вуліцы стрыт-фуда».

**Актывісты дабрачыннай арганізацыі «Бумеранг дабра»**, якія дапамагаюць нам знаходзіць дабрыню ў саміх сабе.

**Уладзіслаў Кнацько-Штэрк** – за ўзняцце маладзечанскага футбола.

**Глеб Карыцька** – за перамогі ў адзінаборстве.

**Аляксандр Кулак** – за захаванне ўнікальнага віду спорту – гарадкі.

**Аляксандр Раткевіч** – за захаванне гісторыі.

#### Вілейка

**Аляксей Чубат** – за арганізацыю і прамоцыю культурніцкага праекта «Спеўны сход».

**Вераніка Гіль** – барацьба за чысціню.

**Ларыса Якавюк** – за экалагічную актыўнасць.

**Наталля Дуровіч** – за арганізацыю сустрэч у вёсцы Будзішча.

**Іван Літвіновіч** – за бліскучыя перамогі.

**Дзмітры Субач** – за крэатыўную дабрачыннасць.

#### Валожын

**Міхаіл Невядомскі** – за падтрыманне інклюзіі.

**Васіль Грынь** – за захаванне традыцый.

#### Смаргонь

**Францішак Жылка** – за адраджэнне млына.

**Эдзіта Бранцэвіч** – за выхаванне дзяцей у беларускай традыцыі.

**Алег Дзярновіч** – за арганізацыю раскопак у Крэве.

#### Астравец

**Аляксандр Дарашэвіч** – барацьба за чысціню.

#### Мядзел

**Юрась Камандзірчык** – за стварэнне драўляных скульптур.

**Эдуард Вайцяховіч** – за развіццё бізнесу ў вёсцы.

#### Ашмяны

**Ашмянскі краязнаўчы музей** – за захаванне спадчыны.



Асобай года-2018 па версіі «РГ» стаў маладзечанец Віталь Качаткоў.



«Адкрыццё года» – Алег Куралесаў.




«Прыз глядацкіх сімпатый» – Ганна Холад і Валянціна Сідоркіна.






«Натхненне года» – Міхаіл Міхалевіч (злева) і Іван Дурэйка.

### Пераможцы акцыі ў мінулыя гады

**У 2018 годзе** «Прыз глядацкіх сімпатый» узялі **Ганна Холад** і **Валянціна Сідоркіна**.

«Адкрыццё года» – **Алег Куралесаў**.

«Натхненнем года» сталі **Іван Дурэйка** і **Міхаіл Міхалевіч**.

«Учынак года» атрымаў **калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра**.

**2017 год.** Асобамі года сталі **Алена** і **Ігар Крэйніс**ы з Валожыншчыны, якія стварылі прытулак для жывёл. Узнагароду «Натхненне года» ўзяў мастак **Базіната**. «Учынак года» атрымаў **Аляксандр Дарашэвіч** з Астравеччыны, арганізатар прыборкі Сарачанскіх азёраў на Астравеччыне, падчас якой вывезлі 2 500 літраў смецця.

У намінацыі «Прыз глядацкіх сімпатый» пераможцу выбіралі праз галасаванне. Першынство атрымала віляйчанка **Жанна Гардынец**.

**2016 год.** Асобай года стала арганізатар «Жывой бібліятэкі» ў Маладзечне **Юлія Мароз**. Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадаткова дзве намінацыі – «Натхненне года», якую атрымаў невідушчы спявак **Данік Савеня** і «Учынак года», якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

**Асобай года 2015** стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**.

**Асобай года 2014** стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіця.



«Учынак года» – калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**Аддзел інфармацыі.**

# Адкрылі пляцоўку амаль за 17 тысяч еўра

## Сюды можна прывозіць старое электраабсталяванне

ВІЛЕЙКА

**28 лістапада на тэрыторыі Вілейскай ЖКГ урачыста адкрылі пляцоўку для часовага захоўвання адходаў электрычнага і электроннага абсталявання і іншых другасных матэрыяльных рэсурсаў.**



Старую тэхніку падвозілі на машынах.

Адкрыццё адбылося ў рамках праекта «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай», што рэалізаваўся на Вілейшчыне ад 2016 года пры падтрымцы Еўрасаюза з дапамогай Вілейскага райвыканкама і Вілейскай ЖКГ.

Надпісы на пляцоўцы – на беларускай мове.

– Цяпер жыхарам Вілейкі стане зручней пазбаўляцца ад старых халадзільнікаў, тэлевізараў, пральных машын, якія займаюць месца дома ці на лецішчы. У далейшым усё гэта накіруецца на перапрацоўку. На пляцоўку таксама можна будзе прывозіць шкло, пластык, паперу, – адзначылі вядучыя.

На ўрачыстасць прыехалі прадстаўнікі Еўрасаюза і таварыства «Экапартнёрства» – каардынатар праектаў Еўрасаюза па экалогіі і энергетыцы **Алена Ракава**, выканаўчы дырэктар «Экапартнёрства» **Аліна Бушмовіч**. Вілейскі райвыканкам на сустрэчы прадстаўляў намеснік старшыні **Аляксандр Катовіч**. Па словах арганізатараў, на адкрыццё пляцоўкі ЕС выдаткаваў каля 17 тысяч еўра.

У выступленні Алены Ракавай прагучала, што Еўрасаюз падтрымліваў і будзе падтрымліваць праекты, накіраваныя на мясцовае развіццё рэгіёнаў, на пытанні энергаэфектыўнасці і якасці вады. Праект быў паспяховы, добра спрацаваў і Вілейскі райвыканкам, і ЖКГ, адзначыла Алена.

– Аб'яднанне высілкаў грамадзянскай супольнасці, мясцовых уладаў і жыхароў дало паспяховы вынік, – падсумавала Алена.

Аліна Бушмовіч таксама адзначыла важнасць праекта і падарыла ад «Экапартнёрства» банеры на экалагічную тэматыку пастаяннаму ўдзельніку і пераможцу конкурсаў, што ладзіліся ў рамках праектаў, – вілейскай школе №3.

Прыкладна за гадзіну каля 20 віляйчан здалі на новай пляцоўцы старую тэхніку і атрымалі падарункі – торбы, шакаладкі, нататнікі, майкі.

А мастацкія калектывы вілейскіх школьнікаў аздобілі мерапрыемства песнямі.

Як нам распавялі ў ЖКГ, цяпер на Вілейшчыне тры падобныя пляцоўкі: на палігоне, у Даўгінаве і новая – у ЖКГ.

З некалькімі перапрацоўчымі прадпрыемствамі ў ЖКГ ёсць дамовы. Туды і накіроўваюць старую тэхніку, дзе яе разбіраюць і перапрацоўваюць з захаваннем тэхналогій.

У рамках праекта на Вілейшчыне закупілі 243 кантэйнеры для пасобнага збору смецця, кантэйнеры для небяспечных адходаў пластыку, вілачны пагрузчык, смеццявоз, у ЖКГ з'явіўся новы сайт і суполка ЖКГ у сацсетках.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.11 | 5.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0957 | **2.1183** |
| Еўра | 2.3106 | **2.3464** |
| Злоты, 10 | 5.3534 | **5.4820** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2804 | **3.3008** |
| Грыўня, 100 | 8.7329 | **8.8513** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **27.11** | **4.12** |
| Еўра | 2.2870/2.3200 | **2.3250/2.3550** |
| Долар ЗША | 2.0850/2.1100 | **2.1100/2.1300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **27.11** | **4.12** |
| | Цана, руб. | |
| Рыс, 0,8 кг | 1,90 | **1,85** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,30 | **2,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,55 | **0,55** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,60 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,30 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Падазраюць, што 17-гадовы хлопец збіў бітай мужа і жонку

**СМАРГОНЬ АШМЯНЫ**

Ашмянскія следчыя завяршылі расследаванне крымінальнай справы, распачатай у дачыненні да 17-гадовага жыхара Смаргоншчыны.

Падставай прымянення гвалту паслужылі неправамерныя дзеянні самога пацярпелага. Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, напярэдадні канфлікту 27-гадовы жыхар Ашмянскага раёна драўлянай палкай некалькі разоў стукнуў па аўтамабілі, на якім разам са сваім знаёмым прыехаў непаўнагадовы.

Пасля гэтага ў 17-гадовага жыхара Смаргоншчыны і ўзнікла жаданне высветліць адносіны з пацярпелым. Па дадзеных следства, сёлета 19 верасня каля 21:00 абвінавачаны моцна пабіў 27-гадовага мужчыну драўлянай бітай.

Бойку бачыла 23-гадовая жонка пацярпелага. Яна пачала заступацца за свайго мужа. Тады абвінавачаны стукнуў бітай жонку пацярпелага і зламаў ёй руку.

Следчыя агледзелі месца здарэння, дапыталі сведак, атрымалі вынікі экспертыз.

Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта прад'явіў абвінавачанне па частцы 1 артыкула 147 – наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. А таксама па частцы 1 артыкула 149 – наўмыснае прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання.

Непаўналетняга ўзялі пад варту. Крымінальную справу перадалі пракурору для накіравання ў суд. Акрамя таго, следчыя накіравалі ў РАУС матэрыял аб пашкоджанні пацярпелым аўтамабіля. Цяпер разгледзяць пытанне аб прыцягненні 27-гадовага жыхара Ашмянскага раёна па артыкуле 10.9 КаАп – наўмыснае знішчэнне альбо пашкоджанне маёмасці.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## На полі загарэлася «пірамідка» з саломы

**ВІЛЕЙКА**

Пажар здарыўся 26 лістапада каля 18:30. Загарэлася салома на полі каля вёскі Ярмолічы Вязынскага сельсавета.

– Салома загарэлася ў канцы вёскі на полі, што належыць сельгаспрадпрыемству «Новая Вілія». Загарэлася «пірамідка» з пяці рулонаў. Агонь не пайшоў далей, бо зямля вакол была ўзараная, – расказаў карэспандэнту старшы інжынер Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Яўген Камароў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Міліцыянеры вярнулі школьніку згублены смарт-гадзіннік

**МАЛАДЗЕЧНА**

У міліцыю Маладзечна звярнулася мясцовая жыхарка. Жанчына сказала, што ў сямігадовага сына знік смарт-гадзіннік.

Па словах дзіцяці, гаджэт быў у кішэні курткі. Заяўніца самастойна спрабавала знайсці гадзіннік, але не знайшла. Тады звярнулася па дапамогу ў праваахоўныя органы. Шкоду ацаніла ў суму каля двухсот рублёў.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі, што хлопчык згубіў гадзіннік у сталовай адной з гімназій горада. Прыладу знайшла 46-гадовая работніца ўстановы. Падабраўшы чужую рэч, яна ўзяла яе сабе замест таго, каб паспрабаваць адшукаць уладальніка і праінфармаваць адміністрацыю.

Жанчына прызналася ў зробленым. Смарт-гадзіннік у яе канфіскавалі і перадалі законнаму ўладальніку.

Цяпер па дадзеным факце праводзяць праверку. У дзеяннях жанчыны угледжваюць прыкметы складу адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага артыкулам 10.6 КаАП Рэспублікі Беларусь. За прысваенне знойдзенага заведама чужой маёмасці парушальніку пагражае штраф да пяці базавых велічынь.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Шукаюць сведкаў смяротнай аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

2 лістапада каля 18:40 35-гадовы кіроўца аўтамабіля «Мерсэдэс-Бэнц Е200» на сёмым кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Валожын наехаў на 43-гадовага пешахода.

Пешаход пераходзіў дарогу злева направа па ходзе руху аўтамабіля паблізу пазначанага пешаходнага пераходу і не быў абазначаны флікерам. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў ён памёр на месцы ДТЗ.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў ДАІ Маладзечанскага РАУС. Адрас: **вуліца Тамары Дудко, 1-18** або па тэлефонах **(8-176) 74-53-40, 74-53-43** альбо па тэлефоне **102.**

**Сяргей БАРТОШ, ДАІ Маладзечна.**




На месцы аварыі.

# Мікрааўтобус сутыкнуўся з рэйсавым аўтобусам

### Адзін з кіроўцаў памёр у бальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пад Маладзечнам здарылася аварыя з удзелам пасажырскага МАЗа і мікрааўтобуса. Кіроўцы ў бальніцы.**

ДТЗ адбылося 30 лістапада каля 8:20 на 15 кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Валожын, у вёсцы Палачаны. Паводле папярэдняй інфармацыі, 31-гадовы кіроўца «Сітраэна» выехаў на сустрэчную паласу руху і сутыкнуўся з рэйсавым аўтобусам «Маладзечна-Падлесная».

Кіроўцы з рознымі траўмамі шпіталізаваныя. Кіроўца мікрааўтобуса памёр у бальніцы 3 снежня, расказаў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

16 пасажыраў МАЗа не пацярпелі і на іншым аўтобусе іх даставілі да месца прызначэння.

На месцы аварыі працавала следча-аператыўная група.

ДАІ рэкамендуе кіроўцам улічваць дарожныя ўмовы падчас паездак.

**Аддзел інфармацыі.**

## Кіроўца збіў раварыста і з'ехаў з месца аварыі. Шукаюць відавочцаў

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося 28 лістапада каля сямі вечара каля вёскі Каловічы.

Кіроўца ехаў па аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач з боку Вілейкі ў накірунку Мядзела. На 15 кіламетры ён збіў раварыста, што рухаўся ў спадарожным накірунку, і з'ехаў. 43-гадовага пацярпелага з траўмамі забралі ў Вілейскую ЦРБ, паведамляюць у Вілейскім РАУС.

Кіроўца невядомы. Ёсць прыкметы аўтамабіля. Гэта быў «Фольксваген» серабрыстага колеру з пашкоджаннямі пярэдняй часткі справа і правага вонкавага люстэрка задняга віду.

Калі вы былі відавочцам здарэння, тэлефануйце ў Вілейскі РАУС на нумар **(8-01771) 52-6-02.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У пункце пропуску «Каменны Лог» службовы сабака знайшоў гашыш

**АШМЯНЫ**

У пункце пропуску на беларуска-літоўскай мяжы службовы сабака мытні выявіў гашыш.

На небяспечны наркотык, схаваны пад паўпрычэпам аднаго з транспартных сродкаў, якія чакаюць праходжання мытнага кантролю, паказаў службовы сабака, з якім у пункце пропуску працаваў кінолаг мытні.

Аператыўна было ўстаноўлена, што схаваны палімерны скрутак належыць кіроўцу грузавога аўтамабіля DAF, грамадзяніну Рэспублікі Казахстан. 46-гадовы мужчына, маючы намер пазбегнуць адказнасці, паспрабаваў пазбавіцца ад скрутку з гашышам.

У дачыненні да кіроўцы распачалі крымінальную справу.

**Паводле Дзяржпамежкамітэта.**

## У Радашкавічах затрымалі злодзея-рэцыдывіста

**МАЛАДЗЕЧНА**

У РАУС звярнулася 51-гадовая жыхарка Радашкавічаў. Жанчына расказала, што невядомы пранік у жылы дом і выкраў два мабільныя тэлефоны, прадукты, набор нажоў і старыя манеты. Шкоду заяўніца ацаніла ў 224 рублі.

Па ўказаным адрасе прыбылі праваахоўнікі. Устанавілі, што ў жыллё зламыснік пранік праз фортку. Гаспадыня забылася яе закрыць. Міліцыянеры выйшлі на след падазраванага. Гэта быў мясцовы жыхар, які ў пачатку года вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі. Мужчыну затрымалі.

26-гадовы беспрацоўны жыхар Радашкавічаў прызнаўся ў зробленым. Растлумачыў, што чужую маёмасць хацеў прадаць, а на вырučаныя грошы купіць спіртное і закуску.

У мужчыны знайшлі скрадзены смартфон. Другі мабільнік, паводле слоў затрыманага, ён даў гарадскім прыяцелям. Па месцы жыхарства фігуранта аператыўнікі канфіскавалі манеты заяўніцы. Набор нажоў падазраваны кінуў па шляху дадому, на старых яўрэйскіх могілках.

У біяграфіі фігуранта ўжо не адна судзімасць за крадзяжы. У дзеяннях мужчыны праваахоўнікі ўгледжваюць прыкметы складу злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 205 КК Рэспублікі Беларусь. Зламысніку пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Новы расклад руху цягнікоў ад 8 снежня

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін

| МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК | | | | МІНСК-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6102 | 04:06 | 06:01 | б/п: Селівонаўка | 6101 | 00:46 | 02:26 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:08 | 06:57 | | 6103 | 04:39 | 06:13 | б/п Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая 06:16 |
| 6106 | 05:33 | 07:23 | па рабочых днях | 7031 | 05:21 ад Мінск П. | 06:47 | б/п Мінскае Мора, Ратамка, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Раманы |
| 6108 | 05:46 | 07:34 | ад Гудагая | 6105 | 05:24 | 07:08 | |
| 6110 | 06:48 | 08:45 | | 6107 | 06:25 | 08:20 | да Гудагая 08:32 |
| 7032 | 07:17 | 08:26 | ад Гудагая з прып. Фест., Жданов., Леб., Масюк., Мінск-П. | 6109 | 07:24 | 09:25 | |
| 6112 | 07:34 | 09:23 | | 6111 | 08:01 | 09:50 | б/п Мясата,Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6114 | 09:12 | 11:14 | | 6113 | 08:47 | 10:39 | |
| 6116 | 09:58 | 11:44 | ад Гудагая да ст.Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, далей па станцыях, п.п.Леб., Ждан., Масюк., Мінск П. | | | | |
| 6118 | 10:20 | 12:08 | | 6115 | 09:42 | 11:38 | да ст. Солы 12:06 |
| 6120 | 10:55 | 12:42 | | 6117 | 11:04 | 12:50 | штодзённа па сб, ндз да Гудагая 13:06 |
| 6882 | 12:10 | 13:54 да Мінск П. | па сб і ндз ідзе ад Гудагая | 6119 | 12:57 | 14:43 | |
| 6122 | 13:01 | 14:50 | па рабочых днях | 6121 | 14:02 | 15:45 | б/п Селівонаўка да Гудагая 16:05 |
| | | | | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6124 | 14:52 | 16:41 | ад ст.Солы | 6125 | 16:15 | 18:06 | да Гудагая 18:10 |
| 6126 | 15:58 | 17:47 | | 6127 | 17:36 | 19:21 | |
| 6128 | 16:37 | 18:35 | штодзённа па выхадных днях ідзе ад Гудагая | 7035 | 18:11 | 19:28 | Мінск-Маладзечна з прып. Мінск П., Масюкоўшчына, п.п. Лебядзіны, Ждановічы, Фестывальны, далей да Гудагая 19:32 з прып. па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны, Каменка |
| 6130 | 17:29 | 19:28 | | 6129 | 18:17 | 20:02 | да Гудагая 20:34 |
| 6132 | 19:18 | 21:06 | ад Гудагая | 6131 | 19:17 | 21:13 | да ст. Солы 21:29 па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны |
| 7034 | 19:50 | 21:18 | з прыпынкамі па станцыях і п.п. Фест., Ждановічы, Лебядзіны, Масюкоўшчына, Мінск П. | 6133 | 20:53 | 22:39 | |
| 6136 | 20:33 | 22:28 | | 6135 | 22:13 | 23:55 | б/п Татаршчызна, Селівонаўка |
| 7036 | 21:26 | 22:38 | Гудагай-Маладзечна з прып. па станцыях і п.п. Каменка, Гаўці, Заскавічы, Маладзёжны, далей да Мінска з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | | | | |
| 6138 | 22:12 | 23:58 | ад Гудагая б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | | | | |

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін

| МАЛАДЗЕЧНА-ГУДАГАЙ | | | | ГУДАГАЙ-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | №цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6103 | 06:16 | 07:40 | штодзённа ад Мінска | 6108 | 04:12 | 05:31 | штодзённа да Мінска |
| 6107 | 08:32 | 09:55 | штодзённа ад Мінска | 7032 | 05:53 | 07:12 | штодзённа да Мінска |
| 6115 | 12:06 | 13:05 | штодзённа да ст. Солы | 6116 | 08:34 | 09:54 | штодзённа, далей да Мінска з усімі прыпынкамі да ст.Алёхнавічы, далей па станцыях, п.п.Лебядзіны, Масюкоўшчына, Ждановічы, Мінск Паўночны |
| 6117 | 13:06 | 14:29 | ад Мінска па сб, ндз | 6882 | 10:29 | 11:48 | штодзённа па сб, ндз ідзе да ст. Мінск Паўночны |
| 6121 | 16:05 | 17:27 | штодзённа ад Мінска | 6124 | 13:35 | 14:33 | штодзённа ад ст.Солы да Мінска |
| 6125 | 18:10 | 19:33 | штодзённа ад Мінска | 6128 | 15:13 | 16:33 | сб, ндз да Мінска |
| 7035 | 19:32 | 20:44 | штодзённа Мінск-Маладзечна з прып. Мінск Паўночны, Масюкоўшчына, Лебядзіны, Ждановічы, Фестывальны далей да Гудагая з прып. па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка | 6132 | 17:55 | 19:14 | штодзённа да Мінска |
| 6129 | 20:34 | 21:56 | штодзённа ад Мінска | 7036 | 20:02 | 21:22 | штодзённа па станцыях, п.п.Каменка, Гаўці, Маладзёжны, Заскавічы, далей да Мінска з прып. Фестывальны, Ждановічы, Лебядзіны, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны |
| 6131 | 21:29 | 22:17 | да ст.Солы па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны | 6138 | 21:00 | 22:10 | штодзённа па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны, Асанаўскі, Насілава, далей да Мінска б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка |
| МАЛАДЗЕЧНА-ЛІДА | | | | ЛІДА-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
| 6261 | 08:41 | 11:43 | штодзённа | 6262 | 04:04 | 07:04 | штодзённа |
| 6263 | 12:26 | 15:25 | пт, сб, ндз | 6264 | 08:53 | 11:51 | штодзённа |
| 6265 | 18:26 | 21:32 | штодзённа | 6266 | 12:20 | 15:19 | пт, сб, ндз |
| 6267 | 20:39 | 23:41 | штодзённа | 6268 | 15:51 | 18:49 | штодзённа |
| МАЛАДЗЕЧНА-КРУЛЕЎШЧЫНА-ПОЛАЦК | | | | ПОЛАЦК -КРУЛЕЎШЧЫНА-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
| 6626 | 08:56 | 11:15 Крулеўшчына | штодзённа 13:34 Полацк | 6622/ 6621 | 04:31 ад Крулеўшчыны | 06:53 | штодзённа ад Глыбокага ў 03:53 |
| 6684 | 12:43 | 14:52 | у выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | 15:10 ад Крулеўшчыны | 17:16 | у выхадныя |
| 6676 | 15:50 | 16:24 | у рабочыя да Вілейкі | 6683 | 16:44 | 17:16 | у рабочыя ад Вілейкі |
| 6630/ 6629 | 20:14 | 22:28 Крулеўшчына | штодзённа 23:10 Глыбокае | 6625 | 17:22 ад Крулеўшчыны | 19:37 | штодзённа ад Полацка ў 15:24 |

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў

| № цягніка | Маршрут руху | Адпр. ад пачатковай станцыі | Па ст. Маладзечна | | | Прыб. на канцавую станцыю | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | прыбыццё | стаянка | адпраўленне | | |
| 623Б | **Віцебск – Гродна (п.в.Камунары-Гродна)** | 18:04 | 0:55 | 3 | 0:58 | 5:24 | штодзённа |
| 31К | **Кіеў – Рыга** | 12:45 | 1:08 | 2 | 1:10 | 08:08 | па чыслах |
| 148Ч | **Калінінград – Масква** | 16:03 | 02:59 | 2 | 03:01 | 15:23 | 26,27,28,29,30/12; 01,02,03,04,05,07,08,10,12/01; 22/02; 06,09/03; 24,25,29,30/04; 02,04,05,08,11,12/05; ад 26/05-31/08 – пн, аўт, пт |
| 29Ч | **Масква – Калінінград** | 17:47 | 4:04 | 2 | 4:06 | 12:47 | штодзённа |
| 626Б | **Віцебск – Мінск** | 21:38 | 4:24 | 37 | 5:01 | 6:32 | штодзённа |
| 360Ч | **Калінінград – Адлер** | 18:07 | 4:52 | 2 | 4:54 | 6:32 | ад 09/12-25/12 – няцотн.; 29/12; ад 03/01-29/05 – няцотн.; ад 01/06 – няцотн. |
| 32Р | **Рыга – Кіеў** | 19:40 | 4:52 | 2 | 4:54 | 15:52 | па чыслах |
| 79Ч | **С.Пецярбург – Калінінград** | 13:25 | 5:19 | 19 | 5:38 | 15:04 | ад 10/12-26/12 – цотн. 27,30,31/12; 03,04,07,10,11/01; ад 14/01-28/02 – цотн. 01/03; ад 04/03-28/05 – цотн. Ад 30/05-05/10-пн, аўт, пт, суб, ад 08/10 – цотн. |
| 88Б | **Рыга – Мінск** | 19:15 | 6:05 | 33 | 6:38 | 7:45 | па чыслах |
| 751Б | **Мінск – Полацк** | 6:30 | 7:32 | 15 | 7:47 | 10:22 | штодзённа |
| 25Б | **Масква – Гродна п/в ад С.Пецярбурга (па цотн.)** | 20:28 | 8:10 | 3 | 8:13 | 11:56 | штодзённа |
| 805Б | **Мінск – Вільня** | 7:35 | 8:26 | 1 | 8:27 | 09:05 | штодзённа |
| 749Ф | **Полацк – Мінск** | 6:13 | 8:36 | 8 | 8:46 | 9:45 | штодзённа |
| 804Т | **Вільня – Мінск** | 6:20 | 9:00 | 1 | 9:01 | 9:53 | штодзённа |
| 801Б | **Мінск – Вільня** | 8:13 | 9:10 | 1 | 9:11 | 10:50 | субота, нядзеля |
| 147Ч | **Масква – Калінінград** | 22:58 | 09:56 | 2 | 09:58 | 18:34 | 27,28,29,30,31/12; 02,03,04,05,06,08,09,11,13/01; 23/02; 07,10/03; 25,26,30/04; 01,03,05,06,09,12,13/05; ад 27/05 да 01/09 – аўт, ср, сб |
| 630Б | **Гродна – Мінск** | 6:35 | 10:10 | 3 | 10:13 | 11:32 | штодзённа |
| 803Б | **Мінск – Вільня** | 10:30 | 11:24 | 1 | 11:25 | 12:30 | штодзённа |
| 731Ф | **Мінск – Гродна** | 15:15 | 16:10 | 1 | 16:12 | 19:10 | штодзённа |
| 629Б | **Мінск – Гродна** | 16:48 | 17:55 | 3 | 17:58 | 22:00 | штодзённа |
| 808Т | **Вільня – Мінск** | 15:05 | 18:05 | 1 | 18:06 | 19:00 | штодзённа |
| 749Б | **Мінск – Полацк** | 17:29 | 18:27 | 8 | 18:35 | 21:06 | штодзённа |
| 751Ф | **Полацк – Мінск** | 16:25 | 18:56 | 8 | 19:04 | 20:01 | штодзённа |
| 26Б | **Гродна – Масква п/в да С.Пецярбурга (па цотн.)** | 15:36 | 19:08 | 2 | 19:10 | 6:28 | штодзённа |
| 80Ч | **Калінінград – С.Пецярбург** | 9:20 | 20:16 | 20 | 20:36 | 14:09 | ад 09/12 да 23/12 – няцотн.; 24,27,28,31/12; 01,04,07,08/01; ад 11/01-27/02 – няцотн.; ад 01/03-25/05 – няцотн.; ад 27/05-02/10- аўт, ср, пт, сб; ад 05/10 – няцотн. |
| 807Б | **Мінск – Вільня** | 19:30 | 20:21 | 1 | 20:22 | 21:03 | штодзённа |
| 806Т | **Вільня – Мінск** | 18:30 | 21:10 | 1 | 21:11 | 22:00 | штодзённа |
| 624Б | **Гродна – Віцебск (п.в.Гродна-Камунары)** | 17:25 | 21:38 | 2 | 21:40 | 6: 03 | штодзённа |
| 87Б | **Мінск – Рыга** | 20:40 | 21:46 | 28 | 22:16 | 7:29 | па чыслах |
| 732 | **Гродна – Мінск** | 19:48 | 22:41 | 1 | 22:42 | 23:38 | штодзённа |
| 625Б | **Мінск – Віцебск** | 21:33 | 22:46 | 35 | 23:21 | 6:46 | штодзённа |
| 359С | **Адлер – Калінінград** | 20:39 | 22:53 | 2 | 22:55 | 08:08 | ад 13/12-29/12 – няцотн.; 03/01; ад 07/01-31/05 – няцотн.; 02/06; ад 05/06-29/09 – няцотн.; ад 01/10 – няцотн. |
| 30Ч | **Калінінград – Масква** | 13:03 | 23:17 | 2 | 23:20 | 8:53 | штодзённа |
| 802Т | **Вільня – Мінск** | 20:15 | 23:50 | 1 | 23:51 | 0:45 | субота, нядзеля |
| 426 Ч | **Калінінград – Чалябінск** | 9:13 | 20:16 | 6 | 20:22 | 6:15 | ад 25/05 да 21/09 – пн |
| 425У | **Чалябінск – Калінінград** | 22:56 | 5:32 | 6 | 5:38 | 15:07 | ад 31/05 да 27/09 – ндз |

Тэл. для даведак: **105,** (8-0176) **74-24-23.**

УНП 600199541




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце

Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра, 2001 г.в.,1,7 ДТІ, чорны. Т. (8-033) 6358202.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., сталі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*

• Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з рамонтам у Вілейцы. Т. (8-029) 7757392.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у в. Каралеўцы Вілейскага раёна, участак 47 сотак. Т. (8-029) 2519948.

• Дом у в. Ракшыцы Вілейскага раёна, гаспадарчыя пабудовы, летняя кухня. Т. (8-029) 9394312 Вэлком.*

• Дом у аг. Лук'яновічы Мядзельскага раёна. Т. (8-029) 1792956.

• Дом у Маладзечне, 100 кв. м, 0,06 га, 2 газавыя катлы, хлеўчык, гараж, калонка ў двары. Т. (8-044) 5749372.

### ЗДАМ

• Пакой і 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем малагутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Мэбля пад заказ, кухні, шафы і г. д. ІП Зянюк А.П. УНП 691183866. Т. (8-029) 3652054, (8-029) 5652044.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніտораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зеленко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Сталяр-цясляр, лесвіцы, лазня, дамы, матэрыялы. ІП Кароль М.Ф. УНП 690689147. Т. (8-029) 6937096.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Іншае**

• Дровы з дастаўкай. Т. (8-025) 7331501.*

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатна. Т. (8-029) 6106061.

• Піяніна нямецкае колеру «арэх». Т. (8-029) 6289816.*

• Сена. (8-029) 6870898.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Ціскі, можна няспраўныя. Т. (8-029) 8794563.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленае пасведчанне ІП Ячнік С.С. УНП 691891411 лічыць несапраўдным.





**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады.**

Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04** (тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47.**
E-mail: **reklama@rh.by.**

**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |



Дзмітры Стасевіч на працы.

# Як працуецца выпускнікам пасля Ільянскага аграрнага каледжа

**Традыцыйна ў лістападзе, калі адзначаюць Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі, выпускнікі Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа тэлефануюць былым выкладчыкам. Віншуюць і распавядаюць, як уладкаваліся пасля каледжа.**

ВІЛЕЙКА

Сёлета зноў было шмат такіх званкоў, таму мы даведаліся пра нашых былых навучэнцаў.

### Заробак і дом з мэбляй задавальняюць

**Дзмітры Стасевіч** скончыў каледж сёлета па спецыяльнасці «заатэхнік». Па размеркаванні трапіў у Гродзенскую вобласць, на Астравеччыну, у гаспадарку «Міхалішкі». Кажа, што да яго паставіліся з паразуменнем. Можа таму, што ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве працуе шмат маладых спецыялістаў. А можа таму, што кіраўнік гаспадаркі і сам быў выпускніком нашага каледжа.

За тры месяцы працы Дзмітрыю, як маладому спецыялісту, далі дом з мэбляй і газавым ацяпленнем. На час абавязковай адпрацоўкі хлопца паставілі на пасаду заатэхніка-селекцыянера.

**Аднак спыняцца на гэтай пасадзе малады спецыяліст не хоча. Ужо прайшоў курсы павышэння кваліфікацыі для заатэхнікаў-селекцыянераў на базе Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта.**

У бліжэйшых планах атрымаць прафесію ветэрынара-гінеколага. Па словах маладога спецыяліста, заробак у 650 рублёў яго задавальняе.

### Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся

Яшчэ адзін наш выпускнік **Іван Гурновіч** пайшоў на працу ў адкрытае акцыянернае таварыства «Чурлёны» на Вілейшчыне мэтанакіравана. Яшчэ пры паступленні ў каледж ён падпісаў дамову аб мэтавай падрыхтоўцы менавіта з гэтай гаспадаркай.

Пра Івана можна казаць: «Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся». Ён выхоўваўся ў прыёмнай сям'і ў Іжы. А Іжа ўваходзіць у гэтае сельскагаспадарчае прадпрыемства. Практыку падчас вучобы Іван таксама праходзіў у Чурлёнах. Пасля каледжа Іван паступіў у Віцебскую акадэмію ветэрынарнай медыцыны. Але праз тыдзень зразумеў, што гэта не яго. І пайшоў працаваць. У Чурлёнах малады спецыяліст мае пакой у аграгарадку Лыцавічы. Працуе Іван на малочнатаварнай ферме, што месціцца за пяць кіламетраў ад аграгарадка. Дабіраецца на працу па-рознаму: у цёплае надвор'е – пешшу, з надыходам халадоў едзе з усімі рабочымі на аўтобусе.

**Працуе малады чалавек заатэхнікам. Праца Івану падабаецца. Аднак заробак у 267 рублёў засмучае.**

Да цяжкасцяў хлопец ставіцца з гумарам. «З чаго нельга навучыцца – з таго можна пасмяяцца», – жартуе Іван.

**Ала ШАМОНІНА,**
**выкладчык спецыяльных навучальных дысцыплін, магістр сельскагаспадарчых навук.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Гутарылі пра тое, як вучням расказваць пра Галакост

**«Праблемы выкладання гісторыі Галакоста і Другой сусветнай вайны ў Беларусі» – пад такой назвай у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханеса Раў ладзілі міжнародны семінар для выкладчыкаў, загадчыкаў музеяў, настаўнікаў гісторыі.**

ВІЛЕЙКА

Семінар зладзіла гістарычная майстэрня імя Леаніда Левіна сумесна з мемарыялам Шоа і цэнтрам «Галакост» у Парыжы. Яго ўдзельнікамі сталі сорак чалавек з розных раёнаў Беларусі. Вілейшчыну прадставілі старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава** і загадчык музея «Ільянскія далягляды» Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаца» **Людміла Маркевіч**.

### Пра Галакост на Вілейшчыне

Праблема Галакосту не губляе актуальнасці для нашай краіны. У гады Другой сусветнай вайны з аднаго мільёна яўрэяў у Беларусі засталіся ў жывых не больш за дзвесце тысяч.

**У пачатку акупацыі ў 1941 годзе ў Вілейскім раёне было 20 тысяч яўрэяў. За час акупацыі забілі амаль усіх.**

Самыя масавыя забойствы яўрэяў адбываліся ў Вілейцы, Ілы, Касцяневічах, Падбярэзі, Сосенцы, Рэчках, Куранцы і Хаценчыцах. Большая частка тых, хто застаўся жыць, ваявалі ў партызанскіх атрадах.

### Гаварылі пра ролю настаўніка ў барацьбе з антысемітызмам

Мерапрыемствы пачалося з прывітальных слоў ад прадстаўнікоў дыпламатычных корпусаў Францыі, ФРГ, Ізраіля. Яны адзначылі важнасць гэтай тэмы для захавання еўрапейскай культуры памяці. Перад прысутнымі выступіў дырэктар Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра **Віктар Балакіраў**. Выступоўцы падкрэслілі вядучую ролю адукацыі ў барацьбе з антысемітызмам, а таксама ступень адказнасці настаўнікаў, якія фарміруюць інтэлектуальную свядомасць грамадзяніна.

На працягу трох дзён мы, удзельнікі, вывучалі еўрапейскі досвед выкладання тэмы Галакоста і Другой сусветнай вайны, які ўключаў як гістарычныя, так і сучасныя пытанні. У гэтым нам дапамагалі запрошаныя выкладчыкі з Францыі, Расіі, Беларусі.

Аўдыторыі прадставілі такія тэмы, як «Карані антысемітызму ў Еўропе», «Нацысцкае бачанне свету», «Галакост у Еўропе», «Нацысцкая акупацыйная палітыка ў Беларусі», «Партызаны і яўрэйскае супраціўленне», «Рэпрэсіўная палітыка Сталіна», «Як выкладаць гісторыю Галакоста».

### Слухалі французскіх, беларускіх, расійскіх гісторыкаў

Перад намі выступілі французскія гісторыкі **Філіп Баўкара, Нікаля Верт, Крыштоф Тарыконе, Фрэдэрык Сале**. Іх дапаўнялі беларускія навукоўцы **Сяргей Новікаў, Аляксандр Даўгоўскі, Яўген Розенблат,** расіянін **Ілля Альтман** і іншыя.

Падчас семінара ўдзельнікі наведалі з экскурсіяй тэрыторыю былога Мінскага гета. Экскурсію праводзіў беларускі вучоны кандыдат гістарычных навук **Кузьма Козак**.

За кароткі час у нас, беларускіх настаўнікаў, была магчымасць комплексна вывучыць і параўнаць перспектывы і выклікі ў выкладанні гісторыі Галакоста і Другой сусветнай вайны ў розных краінах, сканцэнтравацца на сучасных тэндэнцыях у гістарычнай адукацыі і атрымаць адказы на складаныя пытанні.

Лічу, што зносіны настаўнікаў, метадыстаў і вучоных Беларусі, Францыі і Расіі садзейнічаюць удасканаленню выкладання гісторыі, актывізуюць навуковыя даследаванні і з'яўляюцца яшчэ адным крокам у стварэнні транснацыянальнай гістарычнай культуры памяці пра Галакост і Другую сусветную вайну.

**Людміла МАРКЕВІЧ,**
**загадчык музея «Ільянскія далягляды» Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаця».**



Фота забяспечанае Ясеніяй МІКУЛІЧ.

Удзельнікі маладзечанскага аб'яднання ўкраінцаў «Краяны».

# «Краяны» здзіўлялі песнямі, вышыванкамі і стравамі

МАЛАДЗЕЧНА

**У фестывалі нацыянальных культур, што ладзілі ў Маладзечне напрыканцы лістапада, удзельнічалі прадстаўнікі розных дыяспар.**

– Ад нашага маладзечанскага аб'яднання ўкраінцаў «Краяны» сёлета было заяўлена 20 чалавек, – расказала карэспандэнту старшыня «Краянаў» **Ясенія Мікуліч**. – Рыхтаваліся і хваляваліся, каб усё атрымалася.

**Удзел у фестывалі – гэта хваляванне і адказнасць, лічыць Ясенія.**

«Краяны» прадставілі выставу вышыванак **Дар'і Ясюкевіч**. Яна заўсёды з намі на святах, цешыць сваімі працамі людзей і атрымлівае ўзнагароды, кажа старшыня.

Выставілі таксама атрыбутыку Украіны і ўкраінскую кухню. Стравы гатавалі **Валянціна Юзэпчук** і **Любоў Сірыська**.

Падчас фестывалю на сцэне спявалі трыа – **Галіна Баян-Ключнікава, Ала Шэка, Марыя Рудык** – і ансамбль «Краяны». **Леанід Лысакабылка** чытаў байкі на ўкраінскай мове.

Новыя салісткі з Мінска **Каміла Суша** і **Валянціна Кудрэвіч** таксама выступілі на сцэне. А Ясенія Мікуліч сольна спявала пра Украіну.

**– Спадзяёмся, што мы годна выступілі і паказалі сваю працу, што нас ацэняць журы на чале з Міхасём Дрынеўскім, – падзялілася суразмоўца.**




Пачастунак ад «Краянаў».

Фестывалі нацыянальных культур ладзяць раз на два гады. Пераможцы абласнога едуць на рэспубліканскі, у Гродна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Жыццё і боль Ноны Мардзюковай

**Савецкія мужчыны і жанчыны лічылі яе эталонам: за Мардзюковай заўсёды ўвівалася чарада кавалераў. Культавай актрысы не стала больш за 11 год таму. Яна памерла ў 2008 годзе.**



Фота kp.ru.

### Не сышлася характарам з Ціханавым

На здымках сваёй дэбютнай карціны – «Маладая гвардыя» – Мардзюкова пазнаёмілася з акцёрам Вячаславам Ціханавым. Паміж двума студэнтамі Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі закруціўся службовы раман, які праз некалькі гадоў перарос у шлюб. Тады ж у пары нарадзіўся першы і адзіны сын Валодзя.

Мардзюкова і Ціханаў пражылі разам 13 гадоў, пасля разышліся. Многія газеты пісалі: маўляў, шкадавала яна пра развод з першым мужам, даравацъ сабе гэтага расстання не магла. Але актрыса была іншага меркавання аб адносінах з былым мужам. У адным з рэдкіх, але вельмі адкрытых інтэрв'ю яна прызналася, што любові і пяшчоты ў іх пары было няшмат.

– У нас з ім не атрымалася: дадому ніколі не хацелася ісці ні яму, ні мне. Мы розныя людзі: я – казачка, яркая, баявая, а ён ціхі хлопчык. Як бы вам растлумачыць... У маладосці Ціханаў быў нейкі, у добрым сэнсе, не прыстасаваны да жыцця.

### Увяла мужа ў Гурчанкі

Малады акцёр Барыс Андронікашвілі быў другім мужам Людмілы Гурчанкі. Іх шлюб быў яркім, але нядоўгім: неўзабаве мужчына сышоў да Ноны Мардзюковай.

Пагаворвалі, што прычынай была Мардзюкова. Нона Віктараўна гэта заўсёды адмаўляла.

– У іх з Гурчанкай вялікая была любоў, ды нешта не склеілася. Разыходзіліся яны цяжка, абодва плакалі. Я ведаю прычыну, па якой іх шлюб распаўся, але не скажу, таму што гэта не мая таямніца – іншай сям'і.

### Страціла сына

Адзіны сын Ноны Мардзюковай, Уладзімір Ціханаў, пайшоў па бацькоўскіх слядах. Скончыў Шчукінскае вучылішча і пакарыў сталічныя тэатральныя падмосткі, а потым стаў штатным акцёрам «Масфільма».

Уладзімір падаваў вялікія надзеі, аднак яго жыццё пайшло пад адхон: хлопец прыахвоціўся да наркотыкаў. З-за іх ён двойчы развёўся, перастаў атрымліваць прэстыжныя ролі. А потым памёр.

Да ўласнай смерці Мардзюкова дакарала сябе за тое, што не дагледзела, не зберагла. Магчыма, нездарма: яе былая нявестка Наталля Варлей лічыла, што экс-свякроў заўсёды была не вельмі ўважлівая да сына.

### Завяла маладога каханка

Так пісалі СМІ пра дзіўны тандэм маладога і папулярнага тады спевака Юльяна і Ноны Мардзюковай. На самой жа справе любоўных адносін паміж імі не было.

– Калі мы чыталі з Мардзюковай усю гэтую брахню, яна крычала: «Ты скажы ім, што спіш у мяне на раскладушцы на кухні!». Гэта праўда: у яе была аднапакаёвая кватэра. З Мардзюковай мы сустрэліся ў той момант, калі яна страціла сына. Напэўна, у нейкай меры я ёй замяніў яго, – тлумачыў Юльян.

**Паводле Tut.by.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 9 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 0.00** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «Ы» И ДРУГИЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШУРИКА».**
**9.15** Х/ф **«ВЗЯТКА».**
**9.40, 18.10** Т/с **«ПАЛАЧ».**
**10.30** Д/ф «ЗЕМЛЯ. ОДИН ПОТРЯСАЮЩИЙ ДЕНЬ».
**12.00** Х/ф **«ШПИОНКА».**
**14.00, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20, 23.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«УБИЙСТВО СВЯЩЕННОГО ОЛЕНЯ».**

**ВТОРНИК, 10 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.05, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 15.55** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЗАПАДНЯ».**
**9.45, 18.10** Т/с **«ПАЛАЧ».**
**11.35** Д/с «Миллион вопросов о природе».
**11.50** Х/ф **«УБИЙСТВО СВЯЩЕННОГО ОЛЕНЯ».**
**13.50, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.45** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.10** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.15, 23.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДНЕВНИК ПАМЯТИ».**

**СРЕДА, 11 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«НЕВЫНОСИМАЯ ЖЕСТОКОСТЬ».**
**9.25, 19.05** Т/с **«ПАЛАЧ».**
**11.10** Д/ф.
**11.40** Х/ф **«ДНЕВНИК ПАМЯТИ».**
**13.45, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.35** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20, 23.05** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Законы привлекательности».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЬЯВОЛ НОСИТ «PRADA».**

**ЧЕТВЕРГ, 12 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**9.35, 18.15** Т/с **«ПАЛАЧ».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**11.00** Х/ф **«ДЬЯВОЛ НОСИТ «PRADA».**
**12.50** Д/ф.
**13.50, 20.00** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.10** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.00, 23.25** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**17.45** «Готовь как шеф».
**18.00** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ВРЕМЯ ПЕРВЫХ».**

**ПЯТНИЦА, 13 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ».**
**9.50** Т/с **«ПАЛАЧ».**
**10.45** «Готовь как шеф».
**11.15** Д/ф «БОЛЬШОЙ СКАЧОК».
**11.40** Х/ф **«ВРЕМЯ ПЕРВЫХ».**
**14.00, 19.50** Т/с **«МИСТЕР РОБОТ».**
**14.50** Т/с **«ВЕЛИКАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«АГЕНТ МАК ГАЙВЕР».**
**17.20, 0.40** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** Х/ф **«НЕВИДИМЫЙ ГОСТЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КИНГСМЕН. СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**
**23.25** Х/ф **«КОМНАТА».**

**СУББОТА, 14 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 14.45, 19.10, 21.15, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Делай ноги».
**9.00** Х/ф **«БУРУНДУКИ».**
**10.30** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.50** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**12.30** Х/ф **«КИНГСМЕН. СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**
**14.50** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Бэтмен».
**16.15** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**17.00** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**18.20** «Законы привлекательности».
**19.15** Х/ф **«ПОИСК».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Жестокие мужские игры». Триллер «Козырные тузы».
**23.15** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ХВАТКА».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 15 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.15, 19.05, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы «Бэтмен».
**8.35** Х/ф **«КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА».**
**9.50** «Утрямдия».
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.30** «Законы привлекательности».
**11.15** Х/ф **«ТАНЦУЮЩИЙ С ВОЛКАМИ».**
**15.20** «Смотрим всей семьей». «Автостопом по Галактике».
**17.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.10** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**23.25** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 9 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**8.20** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ НА ДАЛЬНИХ БЕРЕГАХ».**
**10.15** Х/ф **«МАМЫ».**
**13.20** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**15.20** Х/ф **«ИМЯ».**
**17.10** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 10 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** По правилам таможни: ввоз продуктов питания.
**8.15** Х/ф **«СИМБАД».**
**13.00** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**15.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**16.30** Х/ф **«РАЗВОД ПО-ФРАНЦУЗСКИ».**
**19.15** Театральная гостиная: Виталий Макаревич.
**20.15** «Национальная безопасность».
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 11 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«САДКО».**
**10.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**13.00** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**16.10** Х/ф **«МОЁ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**18.40** По правилам таможни.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 12 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ЁЛКИ НОВЫЕ».**
**10.00** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И МОРСКОЙ ЦАРЬ».**
**12.00** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**15.00** Рядом со звездой.
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.15** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ».**

**ПЯТНИЦА, 13 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая радзіма.
**8.15** Х/ф **«ЕЛКИ 5».**
**9.40** По правилам таможни.
**11.40** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**13.55** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.35** Х/ф **«СЧАСТЬЯ! ЗДОРОВЬЯ!».**
**16.50** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.20** Мнения и факты.
**20.20** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 14 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Будьте здоровы.
**13.00** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**14.50** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**19.30** По правилам таможни: кто несёт ответственность за международные посылки.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 15 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**9.00** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**10.50** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**13.20** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**15.20** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**17.10** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**18.50** Х/ф **«ТРЕЗВЫЙ ВОДИТЕЛЬ».**
**20.20** Х/ф **«Я – ХУДЕЮ».**
**21.30** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ».**

## Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«ЗА ЛУЧШЕЙ ЖИЗНЬЮ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол!».

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Кулинарная дипломатия.

**13.15** Х/ф **«ТАНГО МОТЫЛЬКА».**

**15.15** Твой город.

**15.30** Маршрут построен.

**16.10** Х/ф **«ПОСЛЕ МНОГИХ БЕД».**

**19.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«АМЕТИСТОВАЯ СЕРЕЖКА».**

## Беларусь 2

**7.00** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**7.55** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.10, 21.20** Телебарометр.

**9.20** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.

**10.40** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**11.40** «До свидания». Реалити-шоу.

**12.35** «Подиум». Фэшн-шоу.

**13.35** Фантастическая сага «Голодные игры: И вспыхнет пламя».

**16.05** Биатлон. Кубок мира. Эстафета. Мужчины.

**17.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**19.15** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.50** Х/ф **«ПОЧТИ СЕМНАДЦАТЬ».**

**23.40** «Суперждена». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.20, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 13.45, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Лиса и Волк». Мультфільм.

**8.35** «У матросов нет вопросов!» Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Цымес.

**10.55** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**11.40** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.30** «Майстры і куміры». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мішчанчук.

**13.50** «Тэгеран-43». Мастацкі фільм [СТ].

**16.20** «Казімір Семяновіч. Вялікае майстэрства артылерыі». Дакументальны фільм.

**17.00** «Аляксандр Маленькі». Мастацкі фільм.

**18.40** «Пакуль стаяць горы». Мастацкі фільм [СТ].

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Чарнаморачка». Мастацкі фільм.

**22.25** «Тэатр у дэталях». Спектакль «Лабараторыі сацыяльнага тэатра ECLAB». «Родныя людзі?».

**22.50** XIV Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. «Ноч класікі ў метро! Модная версія».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ОТПУСК ЗА СВОЙ СЧЕТ».**

**12.05** «Видели видео?».

**14.25** ОНТ представляет: «Тамара Гвердцители и Президентский оркестр Республики Беларусь». Концерт.

**16.20** Премьера. «Борис Щербаков. Мужчина особого обаяния».

**17.25** Премьера. «Три аккорда». Концерт в Государственном Кремлевском дворце.

**20.00** Контуры.

**21.20** Х/ф **«ТРИ ДНЯ ДО ВЕСНЫ».**

**23.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.30** «Что? Где? Когда?». Зимняя серия игр.

**0.45** «Про любовь».

## СТВ

**6.00** «Пища богов».

**7.35, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05, 22.45** Документальный проект.

**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ЧУДОТВОРЕЦ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.15** «Неделя спорта».

**23.35** Т/с **«NEXT 2».**

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.50** «Игра в правду».

**11.50, 16.15, 19.30** Т/с **«ГАЛИНА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**22.00, 1.00** Т/с **«ОРЛОВА И АЛЕКСАНДРОВ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Тело человека».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** Дело жизни. Возрождение.

**8.40** «Однажды...».

**9.20** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**12.00** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.10** Х/ф **«НАВОДЧИЦА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** «Россия рулит!».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СУДЬБА ОБМЕНУ НЕ ПОДЛЕЖИТ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сам себе режиссер».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**14.50** Х/ф **«СЕРДЕЧНЫЕ РАНЫ».**

**18.25** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** ПРЕМЬЕРА. «В людях».

**21.45** Х/ф **«НЕ В ПАРНЯХ СЧАСТЬЕ».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 12.35** Смурфики 2. **8.35** Элизиум: Рай не на Земле. **10.55** Бандитки. **14.35** Бойфренд из будущего. **16.50** Кинг Конг. **20.10** Джуманджи. **22.00** Кейт и Лео. **0.10** Светская жизнь. **2.00** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **3.35** Пианист.

### TV1000 ACTION

**7.10** Петля времени. **9.15** Игра на выживание. **10.55** Телохранитель. **12.40** 13-й Район: Ультиматум. **14.25, 3.20** Другой мир: Восстание ликанов. **16.00** Другой мир: Пробуждение. **17.25** Ю-571. **19.30** Шанхайский перевозчик. **21.10** Законопослушный гражданин. **23.05** Кикбоксёр возвращается. **1.05** Тюряга. **5.10** Астрал: Глава 2.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.15** Неуловимые: Последний герой. **8.00** Горько! **10.15** Униженные и оскорблённые. **12.10** Тарас Бульба. **14.35** История одного назначения. **16.45** Ирония любви. **18.20, 5.30** Высоцкий. Спасибо, что живой. **20.45** Горько! 2. **22.30** Гидравлика. **0.25** Всё или ничего. **2.00** Дурак. **4.00** На крючке!

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.30, 11.30** Т/с **«ОБМАНИ МЕНЯ». 12.30** Х/ф **«СВОРА». 14.15** Х/ф **«УЛЬТИМАТУМ БОРНА». 16.30** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ БОРНА». 19.00** Х/ф **«ДЖЕЙСОН БОРН». 21.30** Х/ф **«СМЕРТНЫЙ ПРИГОВОР». 23.30** Х/ф **«РОНИН». 2.00** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В АМЕРИКЕ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ВСЕГДА ГОВОРИ ВСЕГДА 7». 12.00, 13.00** Т/с **«ПОДРУГА ОСОБОГО НАЗНАЧЕНИЯ». 14.00, 15.00** Т/с **«ЧКАЛОВ». 20.00, 21.00** Т/с **«МИФ ОБ ИДЕАЛЬНОМ МУЖЧИНЕ». 22.00, 23.00** Т/с **«СПАСИТЕ НАШИ ДУШИ». 4.00, 5.00** Т/с **«МОЙ ЛИЧНЫЙ ВРАГ». 6.00, 7.00** Т/с **«УХОДЯЩАЯ НАТУРА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ТАКСИ 5». 2.40** Х/ф **«БОСИКОМ ПО ГОРОДУ». 4.10** Х/ф **«ГРЕЦКИЙ ОРЕШЕК». 5.50** Х/ф **«ПОВТОРНЫЙ БРАК». 7.50** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ». 9.40** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 11.55** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ». 13.50** Х/ф **«АНГЕЛЫ ЧАРЛИ 2: ТОЛЬКО ВПЕРЕД». 15.50** Х/ф **«ДЖУНГЛИ». 17.30** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО». 19.30** Х/ф **«МЫ – МИЛЛЕРЫ». 21.35** Х/ф **«КОРОЛЬ ВЕЧЕРИНОК». 23.25** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00** Охота на дьявола. **0.55, 1.50, 2.45, 4.00, 4.55, 5.45, 6.40, 7.35, 8.30, 9.25, 10.20, 11.15, 12.10, 13.05** Ликвидация. **14.00, 14.55, 15.55, 16.55, 17.45, 18.40, 19.35, 20.30** Чисто английские убийства. **21.30, 22.25, 23.25** Ялта-45.

### ВТВ

**6.00, 8.20, 9.10, 10.45, 12.25, 14.50, 17.00, 18.35, 20.10, 21.40, 23.40** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.25** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.15** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.55** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **10.20** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.50** Шоу «САРАНХЭ». **11.50** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.30** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.55** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 17.05** Х/ф **«ОХОТНИКИ НА ДРАКОНОВ». 18.40** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **20.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.45** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ АМАЗОНКИ». 23.45** Т/с **«МЕТОД ЛАВРОВОЙ». 1.40** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.05** Футбол. Клубный чемпионат мира. **8.00** Настольный теннис. Мировой тур. Гранд финал. Мужчины. Пары. Финал. **9.00** Настольный теннис. Мировой тур. Гранд финал. Женщины. Одиночный разряд. Финал. **10.00** Конькобежный спорт. Этап кубка мира. Нагано. **13.05** Азбука спорта. **13.15** Игры «на вырост». **13.50** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Гонка преследования. Женщины. **14.45** Настольный теннис. Мировой тур. Гранд финал. Женщины. Пары. Мужчины. Одиночный разряд. Финалы. **15.50** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Первый дивизион. Норвегия – Латвия. **18.10** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Эстафета. Мужчины. **19.20** Спорт-центр. **21.40** Хоккей. Чемпионат мира. U-20. Первый дивизион. Дневник игрового дня. **22.10** Итоги недели. **22.55** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Зелена Гура (Польша) – Цмокі-Мінск (Беларусь). **0.40** Пит-стоп.

### EUROSPORT

**1.35** Сноуборд. Кубок мира. Медная гора. Хафпайп. **2.30** Сноуборд. Кубок мира. Кортина-д'Ампеццо. Параллельный слалом. **3.35, 7.00** Горные лыжи. Кубок мира. Санкт-Мориц. Женщины. Супергигант. **4.15, 7.45** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **5.00** Снукер. Scottish Open. 1/2 финала. **8.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Клигенталь. HS 140. Команды. **9.30** Автогонки. WTCR. Сепанг. Квалификация. **10.00, 12.30** Автогонки. WTCR. Сепанг. Первая гонка. **11.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь-д'Изер. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. **13.00, 14.40** Автогонки. WTCR. Сепанг. Вторая гонка. **14.00, 20.45** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Женщины. Гонка преследования. **15.00** Автогонки. WTCR. Сепанг. Третья гонка. **16.00** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Мужчины. Эстафета. **17.35** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Клигенталь. HS 140. **19.45** Лыжные гонки. Кубок мира. Давос. Мужчины. 15 км. Свободный стиль. **21.15, 21.45** Снукер. Scottish Open. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Эконом-тест. **6.30, 7.15** Металломщики. **8.00, 10.30, 13.40, 16.45, 19.15, 0.35, 2.00, 4.25** Итоговые новости. **8.15** Автодрайв. **8.45** Тест на «Драйве». **9.50, 10.45, 17.40, 18.40** Байки про байки. **11.30** Народный тест драйв. **12.00, 17.00, 19.35, 22.55, 3.40** Работяги. **12.40, 20.10, 23.30, 4.10** Хорошо забытое. **12.55, 20.30, 23.50, 0.50, 4.40** Возвращение легенды. **13.25, 21.00, 0.20, 1.20, 5.05** Электродрайв. **14.00, 2.15** Сити-тестер. Эксклюзив. **14.30** «Здесь был «Драйв». **15.30, 21.15** Резьба по стали. **16.00, 21.45, 5.20** Вечер с Пикуленко. **17.20** Эконом-тест. Эксклюзив. **18.20, 22.30** Тайный покупатель. **22.45** Обновление. **1.30** Испытание на прочность. **2.40** Куда уходит детство. **3.10** Комплектация.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.15, 8.05, 9.00** Невероятная рыбалка. **9.50, 10.30, 11.20, 12.10, 13.00, 13.55, 14.45, 15.35, 16.25, 17.15** Выживание в лесу. **18.05, 18.55, 19.40, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.40** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.10** Поисковая команда в Австралии. **1.55, 2.45, 3.35, 4.25, 5.15** Ковбои ледяных вод.

### HISTORY

**6.15** Тайны Парижа. **6.45** Мифы и чудовища. **7.30, 2.25** Родовые проклятья. **8.15** Невероятные изобретения. **8.45, 9.35, 10.30** Тайны британских замков. **11.25, 12.25** Наполеон: Египетская кампания. **13.30, 14.40, 15.55** Частная жизнь средневековых королей. **17.10** Тайный Версаль Марии-Антуанетты. **18.10, 19.10** Николай и Александра: последние монархи России. **20.10, 21.10, 22.05** Частная жизнь. **23.00** Животные на войне. **0.05, 1.00** Загадочные убийства: средневековье. **1.55** Даты, вошедшие в историю. **2.55, 3.50** Тени средневековья. **4.40, 5.30** Мифические существа.

### NATURE

**6.05, 6.55** Неукротимая Румыния. **7.50, 8.45, 9.40, 16.00** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **10.30, 11.30, 15.00** Тайная жизнь слонов. **12.25** Суперветеринар. **13.20, 13.45** Уличный ветеринар. **14.10** Ветеринар из глубинки. **16.55** Великие миграции в природе. **17.45** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **18.45** Удивительное семейство псовых. **19.40** Огромные звери: последние из великанов. **20.30, 21.25, 22.20** Анатомия крупнейших животных. **23.40** Страна чудесных ископаемых – тайные сокровища природы. **0.35** Новый взгляд на тираннозавра. **1.25** Вскрытие мамонта. **2.15, 2.40, 3.00, 3.25, 3.50, 4.15, 4.40, 5.05, 5.30** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.10** Делай ставки и взрывай. **6.20, 5.35** Игры разума. **6.40** Национальные парки Америки. **7.30, 8.15** Золото в холодной воде. **8.55** Настоящий суперкар. **9.40** Ледяная дорога. **10.25** Ледяная дорога: Кошмар на дороге. **11.15, 12.00** Настоящий гений со Стивеном Хокингом. **12.45, 13.35** Путешествия с Гордоном Рамзи. **14.20** Международный аэропорт Дубай. **15.10, 15.55** Расследования авиакатастроф. **16.40** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **17.30** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **18.15, 21.25** Панорама 360. **19.00, 22.10, 2.50, 3.35** Европа с высоты птичьего полета. **19.45, 20.35** Инженерные идеи. **23.00, 23.45, 0.30** Рождение Европы. **1.20, 2.05** Авто – SOS. **4.20** Крупнейший в мире ремонт.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 21.15** Охота и рыбалка в. **6.25, 20.45, 23.20** Профессиональная рыболовная лига 2019. **6.55, 22.15** Охота в Приволжье. **7.25, 0.20** Рыбак-авантюрист. **8.15, 2.15** На рыбалку вместе с папой. **8.45** Научи меня рыбачить. **9.15** Нахлыст. **9.45, 3.45** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **10.15** Зимняя рыбалка в Удмуртии. **10.45** Пофестивалим! **11.15, 17.25, 1.20, 5.10** Подводная охота. **11.45, 18.50, 1.45, 5.35** По рекам России. **12.15, 17.55** Бристольский залив. **13.00** Охотничья и рыболовная кухня. **13.20, 21.45** Камский спиннинг. **13.50, 19.20** На рыбалку с охотой. **14.25, 15.25, 16.20** Охота в Беларуси. **14.50, 15.55, 16.55** Беларусь: в поисках хорошего клева. **19.55** Люди дикого севера. **22.50** Рыбалка сегодня XL. **23.50** Сезон охоты. **1.05** Дело вкуса. **2.40** По Якутии с Александром Борисовым. **3.15** Особенности охоты на Руси. **4.10** Охоты и охотники. **4.30** Охотничьи собаки. **4.55** Какая дичь!

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.05, 22.20, 2.10** Дома на деревьях. **6.45, 14.55, 18.50, 23.05, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 10.55, 19.05, 23.25, 3.05** Да здравствует мыло душистое! **7.15, 11.15, 15.10, 19.25, 23.40, 3.20** Беспокойное хозяйство. **7.45, 15.40, 0.10, 3.50** Профотбор. **8.15, 12.15, 16.10, 20.25, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.30, 16.30, 20.40, 0.40, 4.35** Дачные хитрости. **8.50, 12.50, 16.45, 21.00, 0.55, 4.50** Высший сорт. **9.10** Огород круглый год. **9.40, 13.40, 17.35, 21.50, 1.40, 5.35** Секреты стиля. **11.45** Огород круглый год. **13.05, 17.05, 21.15, 1.10, 5.05** Дачных дел мастер. **19.55** Профпригодность.

# Гісторыя аднаго будынка ў Вілейцы



Фота ebay.de

**На старонцы «Вялейскай суполкі ТАП» была размешчаная старая фатаграфія, на якой адлюстраваная панарама горада Вілейкі з боку Віліі.**

Фотаздымак выклікаў пытанні: калі зроблены здымак і што гэта за вялікі будынак?

Здымак знаходзіўся ў сховішчы Вікіпедыі, ён падпісаны: «Вілейка. 1941 г.». Цалкам верагодна, што так і ёсць.

**Вядома, што каля Ставак быў драўляны мост праз Вілію. Але ў час адступлення Чырвоная Армія ці гарадскія ўлады спалілі мост 24 чэрвеня 1941 года.**

На здымку мы бачым часовы мост, пазней немцы аднавілі стары мост. Да таго ж, адрас арыгінала фота – нямецкі аўкцыён eBay.de. Мабыць, нашчадак нямецкага салдата вырашыў прадаць старыя дзядулевы фатаграфіі.

## У польскі перыяд

Наконт будынка ўсё больш складана. Вядомы яшчэ адзін здымак Вілейкі, амаль з таго ж ракурсу, але ён датаваны 1930-мі гадамі. Арыгінал захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта, а копія – у архіве кінафотадакументаў у Дзяржынску. На фатаграфіі мы бачым гэты ж будынак. Значыць, ён быў пабудаваны яшчэ за польскім часам.

У кнізе «Памяць. Вілейскі раён» пра польскі перыяд гісторыі горада напісана: «Дзяржаўнае будаўніцтва абмяжоўвалася толькі ўзвядзеннем ваенных казармаў у канцы сучаснай вуліцы Чырвонаармейскай, гарадскога суда (цяпер міліцыя), галоўнага корпуса бальніцы, двухпавярховых дамоў на вул. Чырвонаармейскай і ў Школьным завулку. Ад 1935 года дзейнічала электрастанцыя».

Двухпавярховыя дамы нам вядомыя, яны ёсць і цяпер. Гэта так званы губернатарскі дом насупраць санстанцыі. Да польскага перыяду яго аднеслі памылкова, пабудаваны яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя. І настаўніцкі дом каля былой польскай гімназіі імя Сянкевіча. Але гэта не яны. Тады што гэта?

У газеце Kurjer Wilenski за 1935 год ёсць артыкул пра пасяджэнне Вілейскага Wydzialu Powiatowego – павятовага кіравання. На ім абмяркоўвалі заканчэнне будаўніцтва новага ўласнага будынка для гэтага органа ўлады. Будаўніцтва ішло з цяжкасцямі і мабыць доўга, бо банк не даваў крэдыт. Але ў новым будынку была вялікая зала для правядзення з'ездаў, канферэнцый. Ён быў прыстойных памераў.

Будынак на здымку таксама вялікі і падобны да адміністрацыйнага. У той жа газеце пішуць аб правядзенні розных мерапрыемстваў у зале Wydzialu Powiatowego ў 1937 годзе.

Прасторная зала, пра якую гаворыцца ў артыкулах, прыходзіць у галаву толькі адна – у будынку па вуліцы Вадап'янава, дзе цяпер месціцца духавое аддзяленне музычнай школы. Раней там былі дом сацкультуры, тэатр, Дом культуры, Дом піянераў, пры Польшчы – клуб з буфетам, у якім адпачывалі афіцэры-пагранічнікі.

У горадзе быў клуб Ognisko Polskie, у якім таксама месціцца буфет і вялікая зала. Там праходзілі масавыя мерапрыемствы і паказвалі кіно.

**Існуе тэлефонны даведнік Віленскага ваяводства за 1939 год. У ім ёсць тэлефонны нумар клуба і нумар Wydzialu, але няма адрасоў.**

Вядома, што клуб размяшчаўся на вуліцы Георгіеўскай, 8 (Ul. S-to Jerska), цяпер Вадап'янава. Будынак на фота відавочна не на Вадап'янава, а хутчэй на 17 Верасня (Ul. 11 Listopada). На гэтай вуліцы, згодна з тэлефонным даведнікам, быў толькі адзін адміністрацыйны будынак – пастарунак паліцыі на вуліцы 11 Лістапада, 34. Гэта цотны бок вуліцы, а наш будынак стаяў на няцотным, бліжэй да ракі.

У Wilenski Dziennik Wojewodzki за 1938 год знаходжу адрас. Дом №5 – гэта скрыжаванне сучасных 17 Верасня і Вадап'янава.

Таямнічы будынак знаходзіцца крыху далей у бок выезду на Маладзечна, калі сыходзіць з купалаў знесенай Свята-Георгіеўскай царквы.

## Знайшлі на нямецкай карце

У 1939 годзе саветы перайменавалі вуліцы і змянілі нумарацыю дамоў. Але былі вядомыя адрасы дзяржаўных устаноў наваствoранай Вілейскай вобласці.

Калі ўлічыць, што 11 Лістапада стала 17 Верасня, то на няцотным баку вуліцы – вялікі будынак па 17 Верасня, 7 плошчай 375 кв.м. І гэта сталовая №1. У доме №11 размясціліся Аблдараддзел і Спецгандаль – адпаведна 75 і 30 кв.м.

Да таго ж нумарацыя змянілася. Трэба карта або план горада. На адным з сайтаў пашанцавала. Знайшоў план нямецкіх умацаванняў у Вілейцы прыблізна 1943-44 гадоў, складзены мясцовымі падпольшчыкамі.

Шуканы дом бачны адразу, дзякуючы П-падобнай форме. Ён у гэтым раёне такі адзін. Гэта скрыжаванне вуліц Маладзечанскай і Доўгай, цяпер 17 Верасня і Чырвонаармейская, дом №27. Увесь раён, дзе знаходзіцца дом, на карце акрэслены і заштрыхаваны з пазнакай «Падвергнуць бамбардзіроўцы».

Напісана, што: «У гэтым сектары знаходзіцца Гебітскамісарыят (акруговае ўпраўленне), яго служачыя і іншыя нямецкія арганізацыі і іх «сабакі» з мясцовых адходаў». Магчыма, у гэтым будынку падчас нямецкай акупацыі знаходзіўся Гебітскамісарыят.

Вядома, што падпольшчыкі ўзрывалі Гебітскамісарыят, але, відаць, немцы яго аднаўлялі. У кнізе «Памяць. Вілейскі раён» ёсць «Даклад акруговага камісара Хазэ аб эвакуацыі акругі перад надыходам Чырвонай Арміі». У ім гаворыцца, што «... 1 ліпеня 1944 г. у 9 г. 30 мін. Вілейка падверглася масіраванаму ўдару савецкай авіяцыі... Першы налёт быў накіраваны супраць службовых устаноў камісарыята, жылога дома камісара і прылеглых да яго жылых будынкаў персаналу камісарыята, будынка мясцовай камендатуры і моста праз р. Вілія». Увесь раён быў моцна разбураны. Мабыць, тады пацярпела Георгіеўская царква.

**Са 1300 будынкаў горада пасля вайны ацалелі 240 драўляных дамоў.**

Аб пасляваенным аднаўленні горада ў кнізе «Памяць» напісана: «За 1944 г. быў адноўлены будынак НКВД, 12-кватэрны дом, пабудаваныя 4 жылыя баракі і праведзены капітальны і бягучы рамонт на суму 150 тыс. рублёў», пазней былі адноўлены Дом сацкультуры, аблвыканкам (пазней – гасцініца) і іншыя будынкі. Але нашага героя сярод іх не было.

Усю гэту інфармацыю мне ўдалося даведацца, не выходзячы з дому.

**Зміцер ХАЦЕНЧЫК, сябра Вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў.**

● КАЛЯНДАР

6 СНЕЖНЯ

**1800.** У Крывічах Вілейскага павета нарадзіўся **Іосіф (Язэп, Юзаф) Ходзька**, геадэзіст, географ. Памёр 21.11.1981 у Тыфлісе, цяпер Тбілісі.



7 СНЕЖНЯ

**1878.** У в. Навасады (цяпер Ашмянскі раён) нарадзіўся **Андрэй Зязюля (Аляксандр Астрамовіч)**, паэт, беларускі каталіцкі святар. Памёр 17.01.1921.

**1991.** У Віскулях кіраўнікамі БССР, РСФСР і УССР быў падпісаны дагавор аб скасаванні СССР.

8 СНЕЖНЯ

**1432.** Бітва пад Ашмянамі – першая буйная бітва феадальнай вайны ў ВКЛ паміж войскамі вялікіх князёў Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча.

9 СНЕЖНЯ

**1891.** Нарадзіўся **Максім Багдановіч**, беларускі паэт, публіцыст, літаратурны крытык. Памёр 25.05.1917.



10 СНЕЖНЯ

**1870.** У маёнтку Багданава каля Валожына нарадзіўся **Фердынанд Рушчыц**, жывапісец і педагог. Памёр 30.10.1936.



11 СНЕЖНЯ

**1876.** У Вішневе на Смаргоншчыне нарадзіўся **Мечыслаў Карловіч**, кампазітар і дырыжор, фатограф і публіцыст. Памёр 8.01.1909.

12 СНЕЖНЯ

**1979.** У Раўбічах каля Мінска адкрыўся музей беларускага мастацтва.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Пражыла ў Маладзечне 73 гады




У Маладзечне Яўгенія Чантарыцкая жыве і цяпер.

Фота svaboda.org

**Яўгеніі Чантарыцкай (у дзявоцтве Зэня Шэміс) сёлета споўнілася 90 год. Яна нарадзілася ў Францыі, падлеткам вярнулася разам з сям'ёй у Савецкі Саюз. Ад камфортнага жыцця ў французскай правінцыі да беднасці пасляваеннай Беларусі.**

### Францыя – краіна дзяцінства

Бацька Ян нарадзіўся ў вёсцы Бабраўнікі ў Астравецкім раёне. У яго было шмат братоў і сясцёр, жылі бедна. Таму вырашыў ехаць на заробкі за мяжу. Зэня ўспамінае, што сваякі бацькі раз'ехаліся з вёскі, як і ён.

**У Францыю бацька Яўгеніі Ян прыехаў у 1926 годзе ў горад Абуэ. Там заключыў кантракт с кампаніяй і стаў працаваць на шахце.**

Праз нейкі час папрасіў сяброў у Беларусі знайсці яму жонку на Радзіме. Дагэтуль бацькі не бачылі адзін аднаго. Маці, Ганна, гаварыла, што вернецца ў Беларусь, калі не спадабаецца Яну. Аднак Ганна і Ян ажаніліся ў ліпені 1928 года. У наступным годзе ў беларускай сям'і ў Францыі нарадзілася дачка Зэня, а ў 1932-м – сын Рэнэ.

На адной вуліцы з Шэмісамі ў Абуэ жылі пераважна выхадцы з Усходняй Еўропы, дзве французскія сям'і і адна італьянская.

**Зэня з цеплынёй распавядае пра французскае дзяцінства. Яны бавілі час як звычайныя дзеці: гулялі ў класікі і хованкі, скакалі праз гумкі.**

Зэня кажа пра сябе, што была сарвігалавой, а Рэнэ – спакойны і дамашні хлопец. Аднойчы яна парвала сукенку, калі забралася на дрэва. Маці моцна сварылася, а бацька абараняў. У сям'і размаўлялі на польскай мове. А Рэнэ і Зэня камунікавалі з іншымі толькі па-французску.

У 1937 годзе Ганна разам з дзецьмі паехала да маці ў Беларусь. Яны прабылі ў Рагазах каля месяца, паспелі вярнуцца ў Абуэ да Другой сусветнай. Зэня ўспамінае, што ёй спадабалася лазіць па дахах дамоў у вёсцы Рагазы на Маладзечаншчыне.

Да пачатку вайны Зэня скончыла сем класаў у школе. Немцы трымалі ў школе падчас Другой сусветнай гарнізон, таму дзеці не хадзілі на заняткі. Зэня распавядае, што з немцамі ніяк не камунікавалі, як і яны з імі.

**– Калі не чапаеш немца, то і ён цябе не чапае.**

Вайну Зэня не бачыла. Баявыя дзеянні мінулі Абуэ. Французскі горад вызвалялі амерыканцы. Зэня ўспамінае, што калі яны засыналі, па вуліцах хадзілі немцы, а калі прачнуліся, то вайскоўцы былі ўжо ў іншай форме. З амерыканцамі дзеці шмат гулялі, прыносілі ім патроны на стрэльбішча. А салдаты ім падарылі коўдру.

### «Не ведаю, чаму мы паехалі сюды»

Пасля вайны сям'ю Шэмісаў агітавалі вярнуцца ў Савецкі Саюз.

**Бацька хацеў паехаць дадому, таму што ўжо 20 год працаваў на шахце, а маці памятала беднасць і хацела застацца ў Францыі. Дзяцей ніхто не пытаўся.**

У 1946 годзе Шэмісы паддаліся на ўгаворы **Надзеі Саковіч**, якая доўга агітавала іх вярнуцца ў СССР. Пасля Саковіч хацелася назад у Францыю, але ў яе не атрымалася.

У Францыі ў Шэмісаў была гаспадарка і дом. Усё засталося ў Абуэ, яны ўзялі адзенне, кнігі і маленькія бытавыя прылады, напрыклад, кавамолку.

**Сям'я плыла на вялікім караблі пад назвай «Расія» шэсць дзён.**

Зэня прыгадвае, што яны спалі на ніжніх палубах, як селядцы. Маці было страшна плыць, таму што баялася вады – яна была ўсюды, ад яе не збяжыш.

**Прыплылі ва Украіну ў адэскі порт. Першае, што пабачылі ў Адэсе, – хлопчыка, які стаяў з выцягнутай рукой і нешта прасіў. Маці пераклала Зэне і Рэнэ, якія не ведалі ні рускай, ні беларускай, што ён прасіў хлеб. Тады Шэмісы зразумелі, што ў Савецкім Саюзе ўсё будзе не так добра, як у Францыі.**

Ва Украіне яны пражылі нядоўга, але гаравалі і недаядалі. У Зэні нават спыніліся месячныя. Па яе словах, яны ўсе выглядалі, як трасцінкі. Маці разам з Зэняй і Рэнэ паехала ў Рагазы – ехалі ў грузавым вагоне цягніка. Бацька застаўся ў Адэсе адпрацоўваць за пераезд сям'і ў Беларусь.

У Беларусі, як кажа Зэня, было лепш, аднак ніхто з маміных сваякоў не быў рады бачыць іх.

– Яшчэ чатыры галодныя раты. Адна справа, калі толькі б маці прыехала, але ж яна прывезла нас і бацьку. Мы жылі ў двух братоў маці. Спалі на падлозе і лаўках, елі няшмат. Помню, што маці высылала ім грошы з Францыі, а тут яны так прынялі нас.

**Зэня спрабавала вярнуцца назад у Абуэ, аднак з Савецкага Саюза не выпускалі, а запрашэнне французскай сяброўкі не мела сілы.**

– Не ведаю, чаму мы паехалі сюды. Не ведаю, чаму не засталіся ў Францыі.

Бацька памёр праз дзесяць гадоў – у 1958-м.

### «Мяне называлі жыдоўкай»

Зэня і Рэнэ, якія ў Беларусі сталі Жэняй і Рэнюсем, не ведалі мясцовай мовы. Рэнюсь хадзіў у вячэрнюю школу,

# і засталася француженкай




Калаж Аляксандра САЛАГУБА.

На караблі «Расія» большасць надпісаў была па-нямецку, прыгадвае гераіня.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Венчык для ўзбівання яек, прывезены з Францыі.



Спеўнік, які па-французску складала Зэня.


ERNEST LAVISSE

Histoire de France

Cours moyen

Première année

Classe de 8e des lycées et collèges (Garçons et Jeunes filles)

« J'ai entièrement refait mon Cours d'Histoire. Je l'ai considérablement simplifié... »

E. L. (Préface.)

Nouvelle Édition

Падручнік па гісторыі Францыі 1930-х гадоў.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Французская кавамолка.

а Зэня доўга спрабавала ўладкавацца на працу. Працавала на хлебазаводзе, швейнай фабрыцы і ўрэшце засталася ў гандлі.

– За спінай мяне называлі жыдоўкай, таму што мела чорныя валасы і дрэнна размаўляла на рускай. Не крыўдзілася, людзі не ведалі спачатку, хто я і адкуль.

У 1950-я гады за Зэняй бегаў агент МГБ (Міністэрства дзяржаўнай бяспекі), прапаноўваў працаваць агітатарам, але яна адмовілася. Брат Рэнюсь параіў не весціся на правакацыі, не пагаджацца ні на што і нічога не падпісваць.

**Рэнюсь вучыўся ў палітэхнікуме, стаў вядомым краўцом у Маладзечне ў атэлье «Бярозка». Ён ажаніўся са швачкай Надзеяй. У іх нарадзіўся сын Эдмунд і дачка Ларыса.**

Цяпер яны ўдваіх працуюць у прыватнай касметычнай кампаніі «Дыліс Касметык». Эдмунд зрабіў кар'еру да дырэктара фірмы.

Летам 1978 года ў Зэні памерлі маці і брат Рэнюсь. Дачка Зэні Жанна кажа, што гэта паўплывала на маці. Да таго часу ў Зэні ўжо быў муж Іван, дачка Жанна і сын Віктар. Яна вучылася пісаць па-руску і па-беларуску разам з дзецьмі, калі яны пайшлі ў школу. Лёс у Віктара склаўся трагічна: ён памёр у 23 гады ад рака крыві.

## Вяртанне ў Францыю ў 1990-х

Усё жыццё ў Савецкім Саюзе Зэня вяла перапіску з сяброўкай **Палет Жаке**. На нейкі час, калі жанчыны завялі сем'і, перапіска перарвалася. Аднак у 1980-х яны зноў знайшлі адна адну.

**У 1990 годзе Зэня з дачкой прыехалі ў Францыю па запрашэнні Палет.**

Ехалі ў Францыю некалькі дзён. Падарожжа было з прыгодамі. Напрыклад, у Берліне трэба было перайсці з аднаго вакзала на іншы – гэта яны дазналіся толькі па прыездзе.

**У Чэхаславакіі трэба садзіцца ў пэўны вагон, каб дабрацца да горада, дзе іх сустракала Палет. Аднак яны селі ў іншы вагон і дабраліся амаль да Бельгіі. Хлопец у цягніку пачуў, што яны размаўляюць на рускай мове, і дапамог патэлефанаваць Палет.**

Зэня пазнала Палет не адразу, таму што апошні раз бачыліся напрыканцы 1940-х. У Абуэ арганізавалі сустрэчу аднакласнікаў у рэстаране. Зэня перакладала дачцэ з французскай, аб чым размаўляюць за сталом.

**Французы цікавіліся жыццём Зэні ў Саюзе: што адбывалася з ёй, калі яна прыехала з сям'ёй, як тут жылі людзі на самой справе.**

Зэня пабачыла ў Абуэ свой дом, аднак не рашылася туды зайсці. Абуэ не моцна змяніўся за 70 год, але шахту, дзе працаваў бацька, зачынілі.

У Францыі Зэня з Жаннай правялі паўтара месяца, нават пратэрмінавалі візу, аднак французскія пагранічнікі нічога не сказалі.

**– Ваша Радзіма тут ці ў Францыі?**

**– У Францыі, я – француженка. Хацела б вярнуцца ў Абуэ і там памерці.**


THEOBALD

BRACONNIER

LA VIE PRATIQUE

TRAVAUX MANUELS

Deuxième Cycle :

SCIENCES APPLIQUÉES

ÉCOLES URBAINES

CERTIFICAT D'ÉTUDES PRIMAIRES

COURS PROFESSIONNELS

CENTRES DE JEUNESSE

Une grande partie de l'illustration est de Paul LATREILLE

PROGRAMMES 1941

ÉDITIONS EM MAGNARD

107, BOULEVARD RASPAIL, PARIS (VIe)

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Шэмісы прывезлі з Францыі шмат падручнікаў.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

Сёлета журналіст і пісьменнік Валер Каліноўскі апублікаваў кнігу «Дзеці Францыі. Гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну». У кнізе ён распавядае 14 гісторый беларусаў, якія жылі і працавалі ў Францыі, а потым вярнуліся ў Савецкі Саюз. У Маладзечне жывуць Яўгенія Чантарыцкая і Аляксандр Салагуб, якія нарадзіліся ў Францыі.



Шматметровыя льдзіны ў кратары вулкана Мутноўскі. Камчатка, Расія.

# Знялі з рэйса, таму што пагранічнікі

## «РГ» сустрэлася з мядзельчуком, які пабываў у 101 краіне

**Аляксей Язылец з Мядзела пабываў на ўсіх кантынентах, акрамя Антарктыды.**

Яго вандроўкі заўсёды звязаныя са спартыўнымі захапленнямі. Аляксей любіць футбол, гандбол і іншыя камандныя віды спорту. Таму вандравацъ пачынаў менавіта з гэтай нагоды: спачатку па Беларусі, а потым і па ўсім свеце.

### Як усё пачыналася

Аляксей пачаў падарожнічаць ад 12 год па Беларусі, катаўся па футбольных гульнях. Першы раз за мяжу выехаў у Польшчу. Ён разбівае вандроўкі па колькасці часу, адлегласці і мэтах, таму можа назваць сваёй першай краінай і Украіну – першы футбольны выезд за мяжу, і Славакію – першы хакейны выезд за мяжу са зборнай.

– Самай любімай кніжкай у дзяцінстве быў дарожны атлас. Зразумела, калі цікавішся спортам, то і геаграфію вывучаеш. Напрыклад, «Арарат» з Ерэвана, а «Тотэнхэм» з Лондана. Пазней мне стала цікава сустракацца з людзьмі. Людзі – самае цікавае ў падарожжы.

Раней, прызнаецца Аляксей, было складана вандраваць, таму што не было ні букінгу (сістэма інтэрнэт-браніравання гатэляў), ні каўчсёрфінгу (платформа, праз якую людзі даюць начлег адзін аднаму падчас падарожжаў). Праз інтэрнэт шукаў заўзятараў, пытаўся пра начлег. Праводзіў дзень у горадзе, купляў білеты на начны цягнік да іншага пункта, каб пераначаваць. Часта даводзілася начаваць у дзіўных месцах. Напрыклад, спыняўся на ноч у музеях тройчы – у Астрахані, на мяжы з Афганістанам і ў Канадзе.

Аляксей не вядзе дзённік падарожжаў. Ён запісвае інфармацыю ў выглядзе нататак і аддае перавагу фотаздымкам, таму што яны дапамагаюць зафіксаваць усё больш падрабязна.

Аляксей вучыўся ў Мінску і Варшаве па эканамічнай спецыяльнасці. Цяпер ён працуе як турыстычны гід, значыць, падчас працы таксама ў падарожжах. Сутнасць працы Аляксея – дапамагаць падарожнічаць людзям. І ён лічыць гэта добрай справай.

Ад снежня 2018 года Аляксей быў у вандроўцы, вярнуўся ў Беларусь толькі напрыканцы чэрвеня. Ён планує вандроўкі на чатыры гады. У выпадку экстранных падзей, у Аляксея заўсёды ёсць дадатковы план падарожжа.

На думку Аляксея, кошт вандровак залежыць ад чалавека.

– Калі чалавек жыве ў трохзоркавых гатэлях, то грошай ідзе шмат. Я жыву з сябрамі ў рамках праектаў. З сябрамі жыллё больш таннае, ды і весялей.

### Складанасці з беларускім пашпартам

Аляксей адзначае, што з беларускім пашпартам атрымаць візу складана, асабліва ў афрыканскіх краінах. Усё з-за таго, што ў Афрыцы зусім мала беларускіх амбасад.

– Там нават консулы не ведалі такую краіну, як Беларусь. У маёй афрыканскай экспедыцыі было многа такіх выпадкаў.

У афрыканскую экспедыцыю, як яе называе Аляксей, адправіўся з-за чэмпіянату свету-2010 па футболе. Чэмпіянат праходзіў у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, а вандроўнік праехаў усю Афрыку, каб дабрацца да краіны-гаспадара футбольнага мундыялю.

На мяжы Сірыі і Іарданіі Аляксей рабіў візу. Пагранічнік узяў яго пашпарт і перапытаў назву краіны: «Барбадос?». Аляксей абураецца, што яны ведаюць Барбадос, а пра Беларусь не чулі.

**Беларус адплываў на пароме з Іарданіі ў Егіпет, але яго знялі з рэйса, таму што пагранічнікі не ведалі беларускага грамадзянства.**

Сітуацыя ўскладнялася тым, што Аляксею трэба было пераплыць менавіта на тым пароме, каб з Егіпта трапіць у Судан – тэрмін па візе падыходзіў да канца. Пасля пэўных складанасцяў мядзяльчаніну атрымалася плысці іншым караблём, а затым адпаведна паспець на суданскі паром, які курсіраваў толькі раз на тыдзень.

### Што рабіць, калі захварэеш на малярыю

Перад паездкай у Афрыку Аляксей чытаў шмат пра малярыю, нават больш чым пра цікавыя афрыканскія месцы. Ад малярыі няма прышчэпкі, кажа ён. На той час ад малярыі ў Еўропе былі два віды таблетак: маляроны і ларыум. Маляроны вельмі дарагія, іх нельга ўжываць больш за 28 дзён, таму што слабеюць косці. Ларыум больш танны, яго ўжываюць адзін раз на тыдзень, але некаторым ён дзейнічае на псіхіку і выклікае галюцынацыі.

– Мне проста так не давалі ларыум. Доктар выпісаў рэцэпт, за які заплаціў 20 долараў.

Пазней Аляксей адмовіўся ад таблетак. Кажа, яны не дапамагаюць ад малярыі цалкам: калі чалавек захварэе, таблеткі дзейнічаюць, але не заўважаеш прыкметы малярыі.

Аляксей размаўляў з сям'ёй, якая жыла ў Малаві і займалася бізнесам. Яны ўсе хварэлі на малярыю: муж восем разоў, жонка і сын – чатыры разы, а дачка двойчы. Гэта сям'я не піла таблеткі для прафілактыкі. Немцы, з якімі Аляксей пазнаёміўся ў Замбіі, ужывалі лекі ад малярыі. Іх куплялі ў Замбіі – каштуюць танна, але дапамагаюць. Аднак у Еўропе гэтыя лекі не прадаюць, таму што еўрапейцы лічаць іх шкоднымі для сэрца.

### Якая афрыканская краіна найбольш уразіла?

– У прыродным плане Намібія неверагодная, там ёсць унікальныя рэчы: пустыня Наміб і Калахары, Аранжавая рака, бераг шкілетаў і шмат іншых аб'ектаў. Там велізарная розніца паміж багатымі і беднымі. Цікава пажыць на вілах і паразмаўляць з адукаванымі людзьмі. Большасць з іх белыя. Таксама цікава пабыць у мясцовасцях, дзе дагэтуль ежу гатуюць на вогнішчы.

Аляксей лічыць, што падарожжа складаецца з пазнання, як жывуць людзі, а не толькі з турыстычных маршрутаў, калі ты не бачыш рэальнае жыццё.

– Намібія розная і цікавая. Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка да яе па сваёй арганіза-




У Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку Аляксей прыязджаў на ЧС па футболе-2010.



Машына загразла на дарозе ў Папуа.



Неверагодныя цягнікі на Шры-Ланцы: дзверы вагонаў тут не замыкаюцца.

# не ведалі беларускага грамадзянства

цыі падобная. Намібія адзіная краіна ў Афрыцы, куды беларусам не трэба віза.

Аляксей прызнаецца, што любіць краіны, дзе шмат эканамічных і палітычных свабод. Да любімых краін у Афрыцы ён дадае і Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку.

– Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка адрозніваецца памерам ад Намібіі. Але ў яе ёсць вялікі мінус – гэта небяспечная краіна. Некалі яна лідзіравала па колькасці забойстваў.

## «Азія – мой любімы кантынент»

Вандроўніку падабаюцца розныя азіяцкія рэгіёны, і ён лічыць, што колькасць наведванняў кажа за сябе. Напрыклад, у Паўднёвай Амерыцы быў два разы, у Афрыцы – шэсць, а ў Азію з'ездзіў 21 раз.

– Падабаецца Паўднёва-Усходняя Азія. Яшчэ класная геаграфічная азіяцкая частка Расіі: Камчатка, Уладзівасток, Далёкі Усход. Люблю падарожнічаць па Сярэдняй Азіі.

Аляксею падабаецца Азія, аднак жыць у некаторых краінах складана. Ён тлумачыць, што азіяцкі рэгіён – гэта мікс з гасціннасці, людзей, прыроды, таннага харчавання і гатэляў, у значнай колькасці ў краін цудоўны аўтаспын.

## Марыць з'ездзіць у Антарктыду

Аляксей марыць пабываць у Антарктыдзе. Аднак цяпер цэны на пуцёўкі дарагія – каля пяці тысяч долараў. Адпраўленне з Вогненнай зямлі ў Аргенціне.

Гэта тур разам з групай на дзесяць дзён у час сезона, які пачынаецца ад канца лістапада і доўжыцца да лютага. Рэдка з'яўляецца магчымасць здабыць пуцёўку за дзве тысячы долараў.

## Аўтаспын: галоўныя правілы і мова

Аляксей размаўляе ў вандроўках па-англійску. Адзначае, што цяпер усё больш і больш людзей ведаюць англійскую мову. У школе вывучаў нямецкую, аднак ва ўніверсітэце перайшоў на вывучэнне англійскай.

Мядзяльчук кажа, што ў некаторых краінах дагэтуль не ведаюць англійскую мову, таму даводзіцца нешта прыдумваць, каб камунікаваць з кіроўцамі, з якімі кантактуеш падчас падарожжаў.

– Дзесьці «аўтаспын» ці «каньён» могуць быць міжнароднымі словамі. Іншаземцы разумеюць словы, якія ў англійскай заканчваюцца на «шн», напрыклад, revolution (рэвалюцыя).

Аляксей кажа, што з кіроўцамі падчас аўтаспыну можна знайсці агульную тэму нават без ведання мовы, аднак пра сур'ёзныя рэчы не паразмаўляеш. На яго погляд, калі едзеш аўтаспынам, трэба абавязкова звяртаць увагу, ці цвярозы кіроўца. Хоць у афрыканскіх краінах часам вандруеш у перапоўненым транспарце, на даху грузавіка ці нават цягніка.

– У Турцыі цудоўны аўтаспын, аднак дзяўчатам адным лепш не ездзіць. Думаю, хлопцам не страшна ездзіць. Аднак заўсёды трэба рыхтавацца. Калі некалькі разоў паездзіш, дык пачнеш адчуваць, з кім садзіцца ў машыну, а з кім – не.

## Быў у гарачых кропках

– Калі чалавек не канфліктны, то ён не будзе шукаць сабе прыгод. У 2010-м у Судане вайна была, але ў заходняй частцы краіны, у Дарфуры. Я быў у другой частцы Судана, таму вайну не бачыў.

У Афганістане, успамінае Аляксей, тая самая сітуацыя. Баявыя дзеянні праходзяць не па ўсёй краіне, таму вандроўнікі маглі перасоўвацца па краіне 10 і больш год таму (але не цяпер, не ў нашыя часы). Падарожнікі папярэдне дазнаюцца інфармацыю, дзе бяспечныя маршруты: куды можна ехаць, а куды не варта. Аляксей заўважае, што ў падарожжах самае важнае – мазгі і пашпарт.

Ён тройчы быў у Сірыі. Лічыць, што краіна танная і гасцінная. Паспеў шмат чаго паглядзець: Пальміру, старажытны Дамаск, Алепа і Хаму.

– У Маалюля людзі праводзілі службы на старажытнай арамейскай мове. Я планаваў пажыць у Сірыі, спыніцца вясной ў 2011 годзе ў Дамаску, але пачалася вайна.

## Што з сабой браць у вандроўкі?

У заплечнік Аляксей бярэ карымат (турыстычны дыванок), спальны мяшок, крэмы, металічны кубак і лыжку. У азіяцкія краіны браў з сабой лекі: аспірын, вугаль. У трансафрыканскую экспедыцыю браў супрацьмалярыйныя лекі. Бярэ вопратку, горны абутак і басаножкі – тут усё залежыць ад мясціны. Час ад часу ў Аляксея ёсць намёт. Ён бярэ з сабой навігатар і папяровую карту.

**– Але самае галоўнае – не забыць пашпарт і мазгі!**

## Пра беларусаў і Мядзел

– Беларусы не такія гасцінныя ў параўнанні з іншымі народамі свету. Не сказаў бы, што гэта міф, але беларуская гасціннасць – перабольшванне. У параўнанні з еўрапейцамі беларусы не вельмі талерантныя. Мы памяркоўныя і не экспрэсіўныя.

Аляксей прызнаецца, што любіць родны горад, нягледзячы на тое, што ён маленькі. І заўсёды з задавальненнем сюды вяртаецца.

– У нас ёсць Нацыянальны парк, азёры, Будслаў – духоўная сталіца для каталікоў і грэка-каталікоў, шмат гістарычных падзей адбывалася на Мядзельшчыне. Гэта можа быць суб'ектыўна, але блізка да аб'ектыўнага, што Мядзельскі раён – адзін з найлепшых у Беларусі.

## Любімыя гарады

**Лондан** – з-за футбола, таму што гэта горад нумар адзін у відзе спорту і сваёй гісторыі.

**Буэнас-Айрас** – там шмат што ёсць для людзей. Ты можаш пайсці ў тэатр, канцэрт ці на футбол (16 футбольных клубаў разам у агламерацыі ў вышэйшым дывізіёне).

Аляксей адзначыў яшчэ **Вільню, Львоў, Варшаву і Сібіў**.

– Вялікія гарады для мяне ўсе цікавыя. Кажуць, няма чаго глядзець у Касабланцы, але ў любым горадзе ёсць што паглядзець. Мільённы горад можа быць не такім бліскучым, як Лондан, але ён не можа быць нецікавым.

**Настасся УТКІНА.**
**Фотаздымкі забяспечаны Аляксеем ЯЗЫЛЬЦОМ.**

Сачыць за вандроўкамі Аляксея можна ў яго Instagram **liolik_on_tour**




Фота noc.by.

# Вілейскі батутыст Іван Літвіновіч заваяваў пуцёўку на Алімпіяду-2020

**На кваліфікацыйных спаборніцтвах да Алімпійскіх гульняў у Токіа батутыст Іван Літвіновіч выступіў у складзе беларускай зборнай.**

Чэмпіянат свету па скачках на батуце праходзіў ад 29 лістапада да 1 снежня. Там выступалі 340 спартсменаў з 37 краін, якія прэтэндавалі не толькі на 15 камплектаў узнагарод, але і алімпійскія ліцэнзіі.

У стартах мужчын Беларусь прадставілі пяць батутыстаў: **Уладзіслаў Ганчароў**, **Алег Рабцаў**, **Аляксей Дудараў** (індывідуальныя і сінхронныя скачкі), **Іван Літвіновіч** (індывідуальныя скачкі), **Арцём Жук** (сінхронныя скачкі). У скачках на акрабатычнай дарожцы Беларусь прадставіў **Дзмітры Навасёлаў**.

Заключны дзень 34 чэмпіянату свету па скачках на батуце прынёс беларускай зборнай сярэбраны медаль у алімпійскім відзе праграмы – індывідуальных скачках. На другую прыступку п'едэстала падняўся віляйчук Іван Літвіновіч. Ён дапамог мужчынскай камандзе заваяваць золата ў камандным турніры, затым прынёс алімпійскую ліцэнзію, апярэдзіўшы ў паўфінале Уладзіслава Ганчарова і Алега Рабцава.

Літвіновіч саступіў першае месца 27-гадоваму кітайцу **Гао Лэю**. Аднак Іван атрымаў акрамя сярэбранага медаля спецыяльны прыз за лепшую тэхніку.

Сваёй радасцю з «Рэгіянальнай газетай» падзялілася мама Івана, трэнер па спартыўнай акрабатыцы Вілейскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву **Таццяна Літвіновіч**, якая ў свой час далучыла сына да спорту:

– Я вельмі рада! Два медалі на чэмпіянаце свету – гэта выдатна, – кажа Таццяна.

Нагадаем, Іван Літвіновіч – ураджэнец Вілейкі. Ён выхаванец Вілейскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву. Займацца скачкамі на батуце Іван пачынаў у вілейскага трэнера **Пятра Зайцава**. Цяпер Івана трэніруе **Вольга Уласава**.

**Аксана ЯРАШОНАК, Настасся УТКІНА.**

## Астраўчанін Бандарэнка стаў сярэбраным прызёрам па боксе

Віталь Бандарэнка стаў сярэбраным прызёрам міжнароднага турніру па боксе памяці **Віктара Лівенцава**.

Спаборніцтвы прайшлі ў Мінску ў Палацы спорту, дзе за перамогу змагаліся баксёры з 16 краін свету. **Віталь Бандарэнка** ў першым баі пакінуў па-за рынгам саперніка з Кіргізіі, а ў другім перамог баксёра з Віцебска. У фінальным паядынку за «золата» Віталь сустракаўся з англічанінам, якому суддзі аддалі перавагу – 2:3 на карысць саперніка.

**Паводле ostrovets.by.**

## Бягуння з Астраўца стала ўладальніцай двух кубкаў

Астравецкую бягунню **Людмілу Зяньковy-Шкурко** адзначылі ў трох намінацыях Беларускай федэрацыі пырыгодніцкіх гонак па выніках сезона 2019 года. Спартсменка па суме ўсіх этапаў «Жук-Трэйл» стала ўладальніцай двух кубкаў: «Вялікая гара» (42 кіламетры) і «Малая гара» (21 кіламетр). Таксама Людміла адзначаная трэцім прызам агульнага заліку – «Трэйл Беларусь 2019».

**Паводле ostrovets.by.**

## Ашмянскія цяжкаатлеты занялі другое месца на першынстве Гродзенскай вобласці

На першынстве Гродзенскай вобласці па цяжкай атлетыцы выступілі юнакі і дзяўчаты 2004-2006 гадоў нараджэння. Ашмянская каманда складалася з 36 чалавек.

Па выніках чэмпіёнамі першынства сталі **Дзмітры Казлоўскі** (вага да 102 кг), **Яўгенія Шумская** (да 81 кг), **Анастасія Афанасьева** (да 64 кг). Сярэбраныя медалі заваявалі **Даніэль Жабінскі** (да 49 кг), **Лізавета Матарас** (да 45 кг), **Яна Чаплінская** (да 76 кг), **Арцём Савіцкі** (да 55 кг), **Яна Рыбіна** (да 59 кг). Ва ўпартай барацьбе ў вагавой катэгорыі да 81 кг трэцяе месца ўзяў **Мацвей Станкевіч**. У пяцёрку наймацнейшых увайшлі яшчэ 14 прадстаўнікоў ашмянскай каманды.

**Паводле osh.by.**

## Вячаслаў Гераштчанка даў папярэднюю згоду ўзначаліць «Смаргонь»

Былы трэнер літоўскай «Палангі» прыступіць да сваіх абавязкаў у якасці галоўнага трэнера «Смаргоні» ў пачатку 2020 года. Вячаслаў Гераштчанка кіраваў магілёўскім «Савітам» у сезоне-2006/08.

У 2009 годзе ён працаваў галоўным трэнерам моладзевай каманды БАТЭ. Ад 2011 да 2013 года быў галоўным трэнерам магілёўскага «Днялра». У 2015 годзе працаваў у «Оршы», а ў 2016-м быў трэнерам «Белшыны» і потым «Ліды». Са студзеня 2017 года – галоўны трэнер футбольнага клуба «Гомель».

У 2019 годзе Гераштчанка зноў працаваў у «Лідзе», а затым кіраваў трэнерскім штабам у літоўскай «Палангe».

**Паводле shliah.by.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Сельскагаспадарчая прылада для зграбання сена, саломы.
5. Травяністая расліна сямейства бабовых з насеннем у стручках.
7. Раздзел біялогіі, які вывучае ўзаемадзеянне жывёльных і раслінных арганізмаў паміж сабой і з навакольным асяроддзем.
8. Невялікае паглыбленне.
11. Род аптычнага шкла са сферычнымі паверхнямі.
13. Вельмі моцны, раскацісты шум.
14. Свойская птушка з чырвоным грэбенем на галаве і шпорамі на нагах.
17. Лінейка або табліца з дзяленнямі ў розных прыборах.
18. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
20. Кандытарскі выраб, які атрымліваецца шляхам перапрацоўкі зярнят какавы з цукрам і дабаўленнем розных смакавых і пахучых прыпраў.
21. У 1911 годзе кампанія «Уайт Стар Лайн» пусціла на трансатлантычныя лініі два новыя караблі. Адзін з іх назвалі «Брытанік». А як другі?
23. Антываенны рух.
25. Салодкі моцны спіртны напітак.
26. Прозвішча мужа Паўліны Мядзёлкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Са смерцю чалавека знікае яго імя. Таму ў час пахавання імператараў і каралёў над трунай загінулага разломвалі яе. Гэта сімвалізавала зыход яго ўлады.
3. Вышэйшы апеляцыйны суд Вялікага Княства Літоўскага. Установа, адным з арганізатараў якой стаў Леў Сапега.
4. Забабоны.
6. Паводле біблейскага падання – вялізнае марское страшыдла ці лятаючы дракон.
9. Гукі, якія ўзнікаюць пры размове, крыку або спеве дзякуючы хістанню галасавых звязак.
10. Калі Цэзар вяртаўся ў Рым пасля вайсковай перамогі, побач з яго калясніцай бег чалавек, што выкрыкваў недахопы і скаргі на трыумфатара. Як называлі такога чалавека.
12. Вялікі князь літоўскі каля 1294-1315 года.
15. Каханая Маленькага Прынца.
16. Дзелавая або сардэчная размова.
17. Орган кіравання войскам у часцях, злучэннях усіх відаў узброеных сіл, а таксама асобы, якія ўваходзяць у склад гэтага органа.
19. Гэты спосаб камунікацыі выратаваў ад знішчэння Эйфелеву вежу.
22. Сябелюб.
23. Пісьмовая або вусная перадача сваімі словамі прачытанага, пачутага.
24. Сукупнасць слоў мовы ці дыялекту.

● ГАРАСКОП

## Чым адметны розум кожнага са знакаў задыяка

**АВЕН.** Для вас важна быць на баку праваты ў любым пытанні. Вы лічыце сябе разумнымі і любіце гэта паказваць іншым. Асаблівае задавальненне атрымліваеце, калі выйграеце любую спрэчку. А яшчэ вам цяжка прызнаваць памылкі.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы не імкнецеся падавацца лепшым, чым ёсць. Не гоніцеся за знешнімі эфектамі і не напускаеце на сябе выгляд разумніка.

**БЛІЗНЯТЫ.** Гэта вельмі ўседлівы знак. Вы ўмееце дамагацца свайго і разбірацца ў нават самых заблытаных задачах. Для вас важна быць лепшым, таму з задавальненнем рыхтуецеся да заняткаў і важных мерапрыемстваў.

**РАК.** У вас выдатна развітая інтуіцыя. У спалучэнні з жывым розумам гэта робіць вас тым чалавекам, які лепш за іншых зразумее пачуцці любога. А часам нібы чытае думкі навакольных.

**ЛЕЎ.** Вы цудоўна ўмееце прэзентаваць сябе найлепшым чынам і валодаеце аратарскім майстэрствам. Такія здольнасці заваражваюць блізкіх. Свой розум вы часам хаваеце за бліскучымі эфектамі. Важна і тое, што вы робіце высновы са сваіх памылак.

**ДЗЕВА.** У юнацтве Дзевы шмат чытаюць. З узростам назапашаныя веды перарастаюць у мудрасць. Знак вельмі працавіты. Тое, што дадзена ад прыроды, памнажаецца на шмат разоў з-за вашай працавітасці і цярплівасці.

**ШАЛІ.** У вас магутны інтэлект, але важна знайсці яму годнае прымяненне. У многіх прадстаўнікоў знака ёсць складанасці з тым, у якім полі можна было б паказаць магчымасці напоўніцу.

**СКАРПІЁН.** Вы цягнецеся за канкрэтнымі ведамі, якія не толькі цікавыя, але і могуць спатрэбіцца ў жыцці. Ваш мозг працуе практычна і шукае выгаду для сябе. Таму ўсе здзіўляюцца, калі даведваюцца, што вы раптоўна захапіліся нечым экзатычным.

**СТРАЛЕЦ.** Вы – інтэлектуалы ад нараджэння. Інтэлект дамінуе ў любой сферы жыцця. Найчасцей розум мае практычную накіраванасць. Вы ведаеце, як трэба дзейнічаць. І менавіта ў дзеянні раскрываеце свае моцныя бакі.

**КАЗЯРОГ.** У вас дапытлівы розум – трэба ўсё і пра ўсіх ведаць. Вельмі лёгка запамінаеце новую інфармацыю, таму можаце не зусім адказна ставіцца да заданняў і вучобы. У падлеткавым узросце важна кантраляваць навучанне.

**ВАДАЛЕЙ.** Ваш розум працуе ў любым накірунку – творчасці, навуцы, фінансах. Для вас важна займацца сур'ёзнымі і вялікімі справамі. Таму з дробнымі пытаннямі бывае няпроста. Добра, што пры вашай абаяльнасці заўсёды ёсць каму дапамагчы.

**РЫБЫ.** Самы кемлівы знак. Але акрамя цікаўнасці Рыбы валодаюць уседлівасцю, што дапамагае дамагацца любых мэтаў. У падлеткавым узросце развіваецца логіка. Калі ў вас дзіця Рыба, важна займацца ім і дапамагчы знайсці занятак па душы.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 4 | | 8 | | 9 | |
| | | 3 | 9 | | | | | 6 |
| | | 9 | 1 | | 3 | | | 5 |
| | 2 | 7 | | 4 | | | | |
| | | 6 | | 9 | | 2 | 3 | |
| | | 4 | | 8 | | 6 | 7 | |
| 5 | | | | 1 | | | 2 | |
| | | 2 | 8 | | | | 6 | |
| | | 1 | | | 7 | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Адказы на крыжаванку з №48

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Мястра. 4. Торг. 9. Дыскусія. 10. Легат. 12. Вясна. 13. Тара. 14. Веранда. 15. Таксі. 18. Вавілон. 19. Высокі. 20. Дубец. 21. Рэмбрандт. 24. Лазня.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мастаўляны. 3. Дарога. 5. Дагавор. 6. Гертруда. 7. Вялес. 8. Гітара. 10. Лучына. 11. Ліфт. 14. Воск. 16. Гуслі. 17. Дзверы. 18. Вядро. 22. Пенал. 23. Манах. 25. Табун.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


## Называем пераможцаў фотаакцыі «Не губляй ніводнага дня!»

**Пераможцу акцыі выбіраў калектыў рэдакцыі на пасяджэнні.**

Здымак пераможцы ўпрыгожыць фірменны каляндар «Рэгіянальнай газеты» на 2020 год. Ім мы абралі фота **Алесі Горбач**, на якім адлюстраваная першая спроба яблыка.

**Пераможца акцыі супаў з выбарам чытачоў. Гэты ж здымак стаў найлепшым па выніках галасавання.**

Рэдакцыя вырашыла адзначыць таксама **Уладзіміра Пятроўскага** дыпломам «За захаванне традыцый».

Таксама адзначаем **Святлану Андрушойць** «За гармонію ў кадры».

**Пераможцаў мы запросім для ўганаравання ў рэдакцыю.**

**Аддзел інфармацыі.**





## Чытайце праз тыдзень:

- **Як сустрэць Новы год, каб увесь 2020 вам спрыялі ўдача і поспех?**

## 7 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 7-8 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -15,8°С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +8,1°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,8 мм у 1999 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»

**Ідзе падпіска на першае паўгоддзе 2020 года!**



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек;
- на паўгоддзе – 29 рублёў 40 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў;
- на паўгоддзе – 90 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці падабаецца вам зіма і чаму?



**Алена Качан, дырэктар швейнай фабрыкі, Вілейка:**

– Люблю зіму, калі мароз, снег і сонейка. Атмасфера казкі і асацыяцыі з дзяцінствам.



**Павел Хаванскі, Вілейка, беспрацоўны:**

– Падабаюцца снежань і студзень. Бо ў гэтыя месяцы навагоднія і калядныя святы. Добры настрой. Люты не вельмі, бо шэра. Зіма падабаецца снежнай і каб не было надта марозна. Тады мы з сябрамі ездзім катацца на горных лыжах у Сілічы.



**Алеся Агінская, радыёвядучая, Маладзечна:**

– Вельмі люблю зіму, бо я нарадзілася зімой, а яшчэ таму, што зіма – магічная пара.



**Кацярына Абановіч, менеджар праектаў у будаўнічай кампаніі, Маладзечна:**

– Я люблю лета! І чым гарачэй, тым лепш. Зіма – гэта добра, вядома. Зімой выдатна выязджаць у еўрапейскія гарады перад Калядамі. Атмасфера, зачараванне, яркія агні і ўсеагульнае чаканне цуду! Зіма сама па сабе казка.



**Вольга Савіцкая, Маладзечна, эканаміст:**

– Зіма падабаецца, бо менавіта ў гэты час можна вярнуцца ў дзяцінства. А апошні тыдзень снежня дазваляе не толькі апынуцца ў казцы, але і стварыць яе дома: ёлка, упрыгожванне кватэры, ліхтарыкі, ну і, канешне, падарункі ад Дзеда Мароза.



**Таццяна Анціпенка, гаспадыня, Краснае:**

– Мне падабаецца зіма, асабліва калі яна са снегам. Падабаецца з дзецьмі катацца на санках, ляпіць снежную бабу, дрэвы нібы ў срэбры. Увогуле – прыгожая пара года.



**Віталь Назарэвіч, архівіст, Маладзечна:**

– Зіму не люблю, бо вырас ля мора. Але разумею, што гэта натуральны цыкл і з ім трэба неяк жыць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№49 (1284) 6.12.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1987. Падпісана ў друк у 9.00 5.12.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.